наша
# свабода

№41(268) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

16 КРАСАВІКА 2002 году АЎТОРАК

Адрас: 220123, г.Мінск, а/с 103

тэл. 2100-253, факс 2100-254

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by

http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ

## Новы суддзя – для Маркевіча і Мажэйкі

Галоўны рэдактар газеты «Пагоня» М.Маркевіч наведаў старшыню Ленінскага раённага суду г.Гродна сп. Лецку. Той паведаміў, што новы суддзя па крымінальнай справе супраць двух супрацоўнікаў «Пагоні» будзе прызначаны 15–16 красавіка.

Судовы працэс у такім разе можа пачацца ўжо ў канцы тыдня – 18–19 красавіка. Як вядома, 9 красавіка суд над М.Маркевічам і П.Мажэйкам быў адкладзены з-за хваробы суддзі М.Сяргейкі. На сайце «Пагоні» працягваецца апытанне наконт магчымых вынікаў суду над журналістамі. У ім пакуль што ўзялі ўдзел 67 чалавек. Суадносіны паміж песімістамі і аптымістамі захоўваюцца прыблізна ранейшыя. 61,2% лічаць, што прысудам можа стаць зняволенне. Астатнія мяркуюць, што гэтага ўдасца пазбегчы.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

## Расійскія фашысты пагражаюць замежнікам

Консульскія службы Азербайджану, Арменіі, Казахстану, Кіргізіі, Таджыкістану, Узбекістану і Грузіі, акрэдытаваныя ў Расіі, выказалі заклапочанасць актывізацыяй груповак скінхедаў у Маскве.

У лісце, накіраваным у Дэпартамент консульскай службы МЗС Расіі, прадстаўнікі консульстваў сямі дзяржаваў СНД паведамляюць, што «апошнім часам атрымліваюць ад сваіх грамадзянаў, якія знаходзяцца ў Маскве, звароты наконт заяваў і дзеянняў прадстаўнікоў экстрэмісцкіх моладзевых аб'яднанняў, больш вядомых як скінхеды». Раней, у звязку з пагрозамі ад расійскіх «брытагаловых», амбасады ЗША і Японіі ў Маскве параілі сваім суайчыннікам быць асабліва асцярожнымі, не хадзіць па вуліцах уначы, пазбягаць стадыёнаў і трымацца ўбаку ад падазроных групаў моладзі.



Як паведаміў генеральны консул ЗША ў Расіі Джэймс Уорлік, амбасада ЗША ў Маскве выказала расійскаму МЗС заклапочанасць выпадкамі грубых нападаў скінхедаў на чужаземцаў, у тым ліку грамадзянаў ЗША. У прыватнасці, 7 красавіка на Краснай плошчы і на Старым Арбаце на групу амерыканцаў напалі скінхеды.

Сп. Уорлік сказаў, што 8 красавіка амбасадар ЗША ў Расіі Аляксандр Вершбоў атрымаў электронны ліст ад нейкай групы расійскіх скінхедаў з пагрозамі расправы над замежнікамі напярэдадні 20 красавіка – дня нараджэння Гітлера. 11 красавіка японская дыпламатычнае прадстаўніцтва атрымала на электронный пошце ліст ад нейкага «Івана, прадстаўніка групы скінхедаў». У ім гаворыцца, што ў звязку з днём нараджэння Гітлера, 20 красавіка, расійскія фашысты маюць намер «забіваць усіх чужаземцаў, што трапяцца ім на вочы». Ліст, як бы між іншым, раіць японцам неадкладна пакінуць Расію.

**Ntv.ru**

# Грашовая падкормка за лаяльнасць




Фота Ул.ШЛАПАКА

*У праваабарончы цэнтр «Вясна» трапіў вельмі цікавы дакумент – **«Аб дзяржаўнай фінансавай падтрымцы асобных грамадскіх аб'яднанняў»**, накіраваны кіраўніком Адміністрацыі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Уралам Латыпавым Лукашэнку.*

«У 2001 годзе дзяржава аказала фінансавую дапамогу 22 грамадскім арганізацыям. У першую групу ўваходзяць арганізацыі, якія выконваюць важную, шмат у чым незаменную функцыю па аказанні дапамогі найбольш абяздоленым грамадзянам. (...) **члены гэтых аб'яднанняў, як пераконвае практыка, – паслядоўныя прыхільнікі палітыкі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, актыўна падтрымалі Вас 9 верасня 2001 году.**

Другую групу складаюць арганізацыі, якія выконваюць важную духоўную, патрыятычную і адукацыйна-выхаваўчую функцыю ў грамадстве: **Беларускі Экзархат**, Рэспубліканскі Савет ветэранаў вайны і працы, Беларускі саюз жанчын, фонд «Мы – дзецям!», Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі, Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за мяжой «Радзіма», **БПСМ**, а таксама шэраг установаў, якія ўваходзяць у сістэму Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай.

Дзяржаўная падтрымка гэтым аб'яднанням неабходная для рашэння канкрэтных сацыяльна-выхаваўчых задач: **Беларускаму Экзархату на выплату стыпендый і аплату працы выкладчыкаў Духоўнай семінарыі і акадэміі (305 стыпендыятаў і 58 штатных адзінак выкладчыкаў). (...) Прапануем прафінансаваць у поўным аб'ёме Беларускі Экзархат. (...)**

*Заканчэнне на стар.3*

# Хто чакае Земана ў Мінску?

## *Цалкам верагодна, што днямі ў беларускай сталіцы здарыцца сенсацыя*

Інфармацыю ад беларускіх сацыял-дэмакратаў пра тое, што да іх прыедзе лідэр чэшскіх сацыял-дэмакратаў Мілаш Земан, які адначасова выконвае абавязкі прэм'ер-міністра, напачатку шмат хто ўспрыняў як першакрасавіцкі жарт. Стаўленне Прагі да рэжыму Лукашэнкі сярод еўрапейскіх постсацыялістычных краін найбліжэйшае, бадай што, да яснай і жорсткай пазіцыі ЗША. Якраз у Чэхіі атайбавалася ў апошнія гады бальшыня беларускай эміграцыі, да якой вельмі спачувальна ставяцца мясцовыя ўлады. І вось навіна – у Мінск едзе чэшскі прэм'ер. Праўда, у складзе дэлегацыі Сацінтэрну.

Афіцыйна дэлегацыю Сацінтэрну прымае Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Народная Грамада) на чале з Міколам Статкевічам. Нібыта чыста партыйны візіт. Але пікантнасць сітуацыі ў тым, што госці пажадалі сустрэцца з беларускім кіраўніком. Прысутнасць сярод іх цяперашняга чэшскага прэм'ера можа азначаць толькі адно: парушэнне еднасці ўва ўзгодненай палітыцы Захаду што да рэжыму, які пануе ў Беларусі, і асабіста да Лукашэнкі. Як вядома, гэтая палітыка грунтуецца на чатырох умовах, выкананне якіх можа дазволіць Беларусі паўнацэнна вярнуцца ў міжнародную супольнасць. Нягледзячы на неадназовыя абяцанні выканаць хоць бы частку з іх, Лукашэнка працягвае дэманстратыўна ігнараваць думку міжнароднай супольнасці. Перашкоды ў дзейнасці Кансультацыйна-назіральнай групы АБСЕ ў Беларусі сведчыць пра тое самае. Таму малазразумелымі ўяўляюцца матывы, якія выклікалі ў чэшскага прэм'ера жаданне пагутарыць з Лукашэнкам.

Дарэчы, некаторыя назіральнікі схільныя акцэнтаваць увагу на тым, што Земан едзе ў Мінск з Масквы, дзе ён пабывае з рабочым візітам у якасці кіраўніка чэшскага ўраду. Маўляў, цалкам магчыма, што пад маркаю ўдзелу ў партыйнай дэлегацыі Земан можа паспрабаваць абмеркаваць з Лукашэнкам і ягонымі памочнікамі нейкія міждзяржаўныя пытанні. У праваradыкальнай беларускай апазіцыі ходзіць пагалоска, што сярод пытанняў для абмеркавання ў Чырвоным доме могуць аказацца і звязаныя, напрыклад, з захаваннем радыеактыўных адкідаў з чэшскіх АЭС.

*Заканчэнне на стар.3*

Падпісны індэкс НАШАЙ СВАБОДЫ 63478

## ВЕСТКІ



## *Boeing-767* сутыкнуўся з гарой

Пасажырскі самалёт кітайскіх авіяліній *Air China*, на якім знаходзіліся 155 пасажыраў і 11 членаў экіпажу, разбіўся ўчора ранкам у Паўднёвай Карэі. У авіякатастрофе выжылі каля паўсотні чалавек. *Boeing 767*, які выконваў рэйс з Пекіну, пацярпеў крушэнне паблізу ад аэрапорту ў горадзе Гімхе, які абслугоўвае партовы горад Пусан у Японскім моры. Самалёт сутыкнуўся са схілам гары і ўпаў на населены квартал гораду.

Паводле папярэдніх звестак, прычынай катастрофы маглі стаць метэаралагічныя ўмовы. Калі самалёт падлятаў да Гімхе, дыспетчары паведамілі пілоту, што ў раёне аэрапорту дрэнная бачнасць, і парэкамендавалі яму не прызямляцца ў Пусане, а ляцець у Сеул. Пры павароце самалёт сутыкнуўся з гарой. Такое здарэнне з самалётам авіякампаніі *Air China* адбылося ўпершыню ад моманту яе заснавання ў 1988 годзе.

## Чавес вярнуўся да ўлады



Прэзідэнт Венесуэлы Уга Чавес, зрынуты ў выніку ваеннага перавароту, у нядзелю вярнуўся ў прэзідэнцкі палац. Напярэдадні яго прыхільнікі прымусілі сысці ў адстаўку часовага кіраўніка дзяржавы Педра Кармону. Яны захапілі прэзідэнцкі палац і запатрабавалі вызвалення Чавеса. Падчас масавых сутыкненняў у сталіцы загінулі прынамсі 9 і былі паранены каля 50 чалавек.

Пасля аднаўлення на пасадзе Чавес прыняў адстаўку кіраўніцтва найбуйнейшай дзяржаўнай нафтавай кампаніі краіны «Петролеас дэ Венесуэла». Прэзідэнт кампаніі і 10 чальцоў праўлення сталі арганізатарамі забастоўкі, якая прывяла да дзяржаўнага перавароту. Прэзідэнт Чавес мусіў сысці ў адстаўку пасля таго, як ваенныя ўсклалі на яго адказнасць за гібель 12 чалавек падчас выступаў апазіцыі супраць спробы Чавеса ўзяць пад кантроль дзяржаўную нафтавую кампанію. Прэзідэнт быў арыштаваны і ўтрымліваўся ў зняволенні на адным з астравоў у Карыбскім моры.

Венесуэла – чацвёрты з найбуйнейшых сусветных вытворцаў нафты, і апошнія падзеі ў ёй прывялі да рэзкіх ваганняў сусветных цэнаў на нафту. У пятніцу па выніках таргоў на Нью-Йоркскай таварнай біржы цэны ўпалі больш да рэкордна нізкага за апошні месяц узроўню – 23,47 даляра за барэль.

## НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА




Крыніца: www.gismeteo.ru

**Курс наяўнага даляра на «чорным рынку»**

**1760**

# Грашовая падкормка за лаяльнасць

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

У цяперашні час Беларускаму патрыятычнаму саюзу моладзі дзяржава фінансуе бягучыя выдаткі ЦК БПСМ і заработную плату супрацоўнікаў (усяго па рэспубліцы – 1 186 штатных адзінак). **Рашэннем Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 4 чэрвеня 1997 году на іх распаўсюджвяюцца ўмовы аплаты працы органаў дзяржаўнага кіравання.** Штатных супрацоўнікаў Беларускага патрыятычнага саюзу моладзі прапаноўваецца перавесці на ўмовы аплаты працы супрацоўнікаў бюджэтных арганізацыяў. Тэрытарыяльным арганізацыям БПСМ скарацiць колькасць з улікам аб'ёму вылучаных сродкаў, які прадугледжваецца захаваць на ўзроўні мінулага году. (...)

Зыходзячы з вышэйсказанага, лічым мэтазгодным ажыццявіць фінансаванне грамадскіх аб'яднанняў у 2002 годзе ў памеры 3 962,5.

Глава Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь У.Латыпаў.

Дакладная запіска 12.02 2002 № 10/124-1042, 124-1045»

Варта адзначыць, што Беларускі патрыятычны саюз моладзі – грамадская моладзевая арганізацыя, як, напрыклад, Задзіночанне беларускіх студэнтаў. Толькі БПСМ фінансуецца дзяржавай, а ЗБС пераследуецца ўладамі. Што тычыцца Беларускага Экзархату, то яго фінансаванне дзяржавай – прамое парушэнне беларускага заканадаўства, паколькі, у адпаведнасці з арт.16 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, усе рэлігіі і веравызнанні перад законам роўныя. Згодна з арт.7 Закону Рэспублікі Беларусь «Аб свабодзе веравызнанняў і рэлігійных арганізацыяў», – «дзяржава не ўскладае на рэлігійныя арганізацыі выкананне якіх-небудзь дзяржаўных функцыяў, не ўмешваецца ў дзейнасць рэлігійных арганізацыяў, калі яна не супярэчыць заканадаўству. **Дзяржава не фінансуе дзейнасць рэлігійных арганізацыяў. Рэлігійныя арганізацыі не выконваюць дзяржаўных функцыяў».**

Фінансаванне дзяржавай Беларускага Экзархату адбываецца на фоне дыскрымінацыйных і абразлівых выказванняў у электронных і друкаваных дзяржаўных СМІ на адрас іншых традыцыйных для Беларусі веравызнанняў. Усё гэта не спрые талерантнасці і можа справакаваць канфлікт на рэлігійнай глебе.

**Інфармацыйны аддзел ПЦ «Вясна»**

# Афіцыйны Мінск выжывае місію АБСЕ

14 красавіка выканаўца абавязкаў КНГ АБСЕ ў Мінску Мішэль Рывалье пакінуў беларускую сталіцу –у дыпламата скончылася дзеянне службовай візы, а ўлады Беларусі адмовіліся яе прадоўжыць. Абавязкі кіраўніка КНГ АБСЕ выконвае цяпер палітычны дарадца місіі Эндру Карпентэр.

Гэты факт сведчыць, што афіцыйны Мінск узяў курс на выжыванне супрацоўнікаў КНГ АБСЕ. Між тым з 31 снежня мінулага году месца кіраўніка КНГ АБСЕ ў Мінску пустуе, а цяпер – пасля ад'езду Мішэля Рывалье – статус кіраўніка місіі яшчэ больш знізіўся. Варта нагадаць, што беларуская ўлады заявілі пра неабходнасць змяніць мандат місіі АБСЕ ў Мінску, у адваротным выпадку пагражаючы не толькі не прызнаць новага кіраўніка – былога нямецкага амбасадара ва Украіне Эбергарда Хайкена, але і ўвогуле, магчыма, закрыць КНГ АБСЕ. Галоўнае абвінавачванне на адрас КНГ АБСЕ – умяшанне ва ўнутраныя справы Беларусі.

Рэакцыя новага кіраўніцтва АБСЕ не прымусіла доўга сябе чакаць. Ужо 12 красавіка дзеючы старшыня АБСЕ, партугальскі міністр замежных справаў Антоніо Марцінэ да Круз заявіў, што падобны дэмарш афіцыйнага Мінску, які пазбаўляе КНГ АБСЕ магчымасці эфектыўна працаваць, **«можа прывесці да сур'ёзнага пагаршэння ўзаемадзеяння паміж АБСЕ і Беларуссю і да прыняцця адпаведных захадаў».**

**Рыгор БУЯН**

# Канферэнцыя патрыётаў

У пазамінулую нядзелю патрыятычныя беларускія арганізацыі збіраліся на канферэнцыю. Гэтая сустрэча была склікана незарэгістраванай арганізацыяй «Край», каб наладзіць дыялог паміж патрыётамі, якія стаяць на нацыянальна-дзяржаўніцкіх пазіцыях. Вынікам канферэнцыі стала стварэнне каардынацыйнай рабочай групы. У прынятай Дэкларацыі беларускіх патрыятычных арганізацый гаворыцца пра пагаршэнне сацыяльна-эканамічнага становішча народа, вынішчэнне рэжымам ягонай духоўнасці, мовы, культуры, традыцый.

Падсумоўваючы вынікі першай канферэнцыі патрыятычных арганізацый, можна сказаць, што беларускія правыя сілы гатовыя супрацоўнічаць паміж сабой. Яны імкнуцца да кансалідацыі нацы на глебе нацыянальнай ідэі. Зрэшты, Дэкларацыя, якую прынялі на канферэнцыі, – адкрытая для падпісання, таму кожны беларус можа далучыцца да яе і падтрымаць гэтым патрыятычны рух.

Мяркуецца, што плёнам працы патрыятычных арганізацый павінен стаць агульны кангрэс беларускіх нацыяналістаў.

**Я.К.**

# Прэзідэнт занепакоены становішчам у Беларусі

Прэзідэнт Чэшскае Рэспублікі Вацлаў Гавел глыбока занепакоены няспыннымі парушэннямі правоў чалавека ў Беларусі.

Апошнія выпадкі парушэння асноўных правоў – права на свабоду сходаў і права на свабоду выказвання, – пераслед прадстаўнікоў апазіцыі, палітычна матываваны ўціск, а цяпер і дзяржаўная ліквідацыя тыднёвіка «Пагоня» дый абвінавачванне яго рэдактараў Міколы Маркевіча і Паўла Мажэйкі ў паклёпе на прэзідэнта, – усё гэта, паводле Вацлава Гавела, знаходзіцца ў рэзкай супярэчнасці з дэклараванымі намаганнямі беларускіх прадстаўнікоў далучыць краіну да еўрапейскіх і міжнародных структур.

Прэзідэнт Гавел заклікае неадкладна спыніць крымінальны пераслед абодвух журналістаў і іншых пакараных асоб і пакласці канец далейшым парушэнням правоў чалавека ў Беларусі. Гэтым ён выказвае, як і шмат разоў раней, сваю салідарнасць з тымі, хто імкнецца да дэмакратызацыі аўтарытарнага рэжыму Аляксандра Лукашэнкі.

Прэзідэнт упэўнены, што трансфармацыя беларускага грамадства, росквіт эканомікі і далучэнне да сям'і еўрапейскіх краін магчымыя толькі пры павазе да правоў чалавека і дэмакратычных каштоўнасцяў – такіх, як, напрыклад, свабода сродкаў масавай інфармацыі.

**Ладзіслаў ШПАЧЭК,**
**прэсавы сакратар прэзідэнта Чэшскае Рэспублікі**
**15 красавіка 2002 году**

# Чарнобыльскі шлях-2002

На чарговым паседжанні аргкамітэту «Чарнобыльскага шляху-2002» быў вызначаны план і месца правядзення акцыі. Месцам збору ўдзельнікаў шэсця 26 красавіка з 17.30 да 18.30 стане плошча Якуба Коласа. Сам Шлях, як мяркуецца, пройдзе праспектам Скарыны, далей па вуліцы Леніна да плошчы Свабоды, дзе з 19.00 да 20.00 адбудзецца гадзіна смутку. Тут плануецца правесці жалобны малебен і кароткі мітынг, на якім выступяць ліквідатары, жыхары забруджаных раёнаў, медыкі. У гэты ж час асобная дэлегацыя ўдзельнікаў Шляху перадасць у Дом ураду петыцыю па праблемах Чарнобылю, а таксама ўсклаадзе кветкі да Звана Чарнобылю на плошчы Незалежнасці.

Таксама ў гэтыя дні пройдзе традыцыйная навуковая канферэнцыя, якую арганізуе дабрачынны фонд «Дзецям Чарнобыля» і яе прэзідэнт Генадзь Грушавы. Асаблівая ўвага на канферэнцыі будзе аддавацца сацыяльным працэсам, якія адбываюцца ў зоне.

**Вінцук ВЯЧОРКА:**

Я хацеў бы, каб гэты «Чарнобыльскі шлях» меў, як і папярэднія, мірны характар. Мы, самыя розныя людзі, выходзім на вуліцы таму, што ў нас адна агульная бяда, якая лучыць усіх нас.

Ці пойдуць улады на саступкі? Я думаю, што, як заўсёды, будзе прынятае рашэнне, каб не дазволіць нам сказаць пра нашую бяду на ўвесь свет. Але я вельмі спадзяюся на здаровы розум уладных структураў. Мы не хочам сутыкненняў, мы хочам зусім іншага – сказаць пра нашую бяду свету.

Сапраўды, на першы план для Беларусі зараз выходзіць адстойванне ранейшага стаўлення ў свеце да праблемы забруджаных тэрыторыяў. Усе мы бачым, як зараз, замест ранейшых намаганняў па адсяленні людзей, урад прапануе нешта зусім іншае – засяленне забруджаных тэрыторыяў. Агульная пазіцыя ўладаў у падыходзе да чарнобыльскай праблемы за апошнія гады прынцыпова змянілася. Яшчэ больш ускладняюць сітуацыю візіт у Беларусь намесніка Генеральнага сакратара ААН Кенза Ашымы і ягоныя прапановы ўраду пра сацыяльную адаптацыю людзей і стварэнне новых працоўных месцаў для жыхароў забруджаных рэгіёнаў, якія фактычна з'яўляюцца падтрымкай сённяшняга афіцыйнага падыходу.

Днямі ў гарвыканкам была пададзеная заяўка на правядзенне шэсця 26 красавіка. У заяўцы, якую падпісалі 212 чалавек, змешчаная просьба даць дазвол на правядзенне шэсця і малебну. Лозунгі, пад якімі мяркуецца правесці Шлях: «За Беларусь – дзеля будучыні!», «Беларусі – жыць!», «Усе разам супраць Чарнобыльскай бяды». Мастацкае аздабленне калоны даручана мастакам з суполкі «Пагоня».

**Аляксей МАРАЧКІН:**

Кульмінацыя ўсёй акцыі павінна адбыцца каля нашых храмаў і святыняў, дзе мы памолімся разам, ушануем хвіліну маўчання па тых, хто памёр ад радыяцыі. Гэта самае галоўнае. На Бангалоры, там, дзе сабак выгульваюць, мы не зможам гэтага зрабіць.

У гэтым годзе ў шэсці мы плануем ужыць Сцяг уваскрашэння. Я хачу падкрэсліць хрысціянскую сутнасць гэтага сімвала – гэта не сцяг БНФ ці нейкага іншага палітычнага руху ці плыні, гэта сцяг Хрыста, які лучыць нас усіх. Гэты сімвал з даўніх часоў суправаджае самыя слаўныя моманты нашай гісторыі і з'яўляецца нашай нацыянальнай святыняй.

**Ядвіга МАЦКЕВІЧ**



Зруйнаваная Чарнобылем хата

## ЗДАРЭННІ

# Страхоўка перад візітам Лукашэнкі

13 красавіка па дарозе ў Касцюковічы былі затрыманыя сябры Праваабарончага цэнтру «Вясна» на чале са старшынём Алесем Бяляцкім.

Старшыня ПЦ «Вясна» Алесь Бяляцкі і сябра «Вясны» Сяргей Залеўскі ехалі ў Касцюковічы, каб наведаць мясцовых актывістаў цэнтру. Каля Краснаполля машыну спынілі на заставе міліцыянты, якія правяраюць, каб з чарнобыльскай зоны не вывозілі рэчы. У багажніку машыны супрацоўнікі міліцыі знайшлі бюлетэні «Права на волю» і ўзялі па адным асобніку.

«Калі машына пад'язджала да Касцюковіцкага раёну, – гаворыць Алесь Бяляцкі, – нас перанялі касцюковіцкія міліцыянты. Хутка пад'ехаў намеснік начальніка РУУСу Касцюковіцкага раёну, падсадзіў да нас у машыну аднаго міліцыянта, і мы паехалі ў Касцюковіцкае РУУС. З дому выклікалі начальніка РУУСу (была субота, 12-ая гадзіна ночы). Начальнік праверыў нашыя дакументы, бюлетэні, пагартаў кнігу *«Выборы президента Республики Беларусь – 2001 год»*, і праз паўгадзіны нас адпусцілі.

Аказваецца, у Касцюковіцкі раён 26 красавіка прыязджае Лукашэнка. І, адпаведна, мясцовае міліцэйскае начальства баялася, што мы рыхтуем нейкі сюрпрыз. Але бюлетэняў не канфіскавалі, бо колькасць іх не перавышала 300 асобнікаў».

**ПЦ «Вясна»**

# Хто чакае Земана ў Мінску?

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

Кажуць таксама, што прадметам торгу могуць быць і іншыя, малавядомыя для грамадскасці тэмы. Варта адзначыць, што, згодна з праграмаю знаходжання Земана ў Мінску, сустрэча з пацярпелымі ад рэпрэсіяў рэжыму, сярод якіх і жонкі зніклых апазіцыянераў, адбудзецца *пасля* сустрэчы з Лукашэнкам. Тады цяжка зразумець, які эфект можа зрабіць ліст ад жонак зніклых з просьбаю ўзняць пытанні пра іх мужоў пры сустрэчы з Лукашэнкам. Цяжка вытлумачальнай пры гэтым застаецца і тая роля, што ўзялі на сябе Статкевіч і ягоныя аднадумцы, якія старанна пазбягаюць тэмы будучага візіту Земана і яго спадарожнікаў. Цікава, што незвычайнае маўчанне пануе і ў атачэнні Лукашэнкі, у ягоным знешнепалітычным ведамстве. Здавалася б, такі поспех: да іх едзе прэм'ер натаўскай краіны, якая вось-вось павінна ўступіць у Еўрапейскі Саюз. Але маўчаць, разумеючы, мабыць, усю цану магчымай сенсацыі.

На першы погляд, маўчанне чэшскіх СМІ наконт «беларускага турызму» свайго прэм'ера выглядае вельмі дзіўным. Але ёсць падставы чакаць, што як толькі Земан апынецца ў Мінску, гэтае маўчанне парушыцца. Дарэчы, дагэтуль засваюць крытычным. За галоўны матыў такой ініцыятывы падаецца сумежнасць Польшчы і Літвы з Беларуссю і іх гістарычная супольнасць. Што да палякаў, то сярод грамадзян Беларусі іх больш за паўмільёна. Таму Варшава мае права клапаціцца пра сваіх суродзічаў у Беларусі. Як і Мінск пра сваіх у Польшчы. Але што да Прагі, то ў яе такіх супольных тэмаў з Беларуссю проста няма. А патрабаванні захоўваць універсальныя грамадзянскія правы і правы чалавека, парушэннямі якіх папракаюць беларускі рэжым, зусім не могуць быць нагодаю для правядзення нейкай сваёй, арыгінальнай палітыкі. Нават напярэдадні перадвыбарчай кампаніі.



таецца невядомаю дарога, якою ён прыбудзе ў Беларусь. Кажуць, чэшскі прэм'ер можа паехаць праз Вільню, што нібыта дазволіць змякчыць вастрыню ягонага прыезду. Але калі Земанаў самалёт прызямліцца ў мінскім аэрапорце, то з'яўленне аднаго з кандыдатаў у прэзідэнты Чэшскай Рэспублікі будзе ўспрымацца як ледзь не дзяржаўны візіт. Тады яго можна будзе кваліфікаваць як першы візіт кіраўніка ўраду краіны – сябра *NATO*. Дый увогуле еўрапейскай краіны.

Кажучы пра Земанаву ініцыятыву, відаць, варта сказаць і пра ініцыятывы іншых сацыял-дэмакратаў – польскіх і літоўскіх. Будучы, як і ў Чэхіі, пры ўладзе ў сваіх краінах, іх лідэры звярнуліся ў еўраатлантычныя структуры з просьбаю даць Варшаве і Вільнюсу адмысловы мандат на вядзенне дыялогу з беларускімі ўладамі. У Вільнюсе такі дыялог называюць крытычным.

Прыезд Земана ў Мінск адбудзецца амаль за два месяцы да парламенцкіх выбараў у Чэшскай Рэспубліцы. У адрозненне ад грамадзян Беларусі, чэхі абіраюць свайго прэзідэнта ў парламенце. Дагэтуль лідэр чэшскіх сацыял-дэмакратаў разглядаецца як адна з рэальных кандыдатур на пост прэзідэнта краіны. Увогуле, на будучых парламенцкіх выбарах змаганне за бальшыню будзе разгортвацца паміж чатырма партыямі, дзве з якіх – правага кшталту. Камуністаў нават саюзнікі ўсур'ёз не разглядаюць. Практычна левы палітычны спектр у Чэхіі прадстаўлены цяпер кіраўнічай сацыял-дэмакратычнай партыяй.

На думку адных аналітыкаў, дзве правыя партыі, аб'яднаўшыся на выбарах, цалкам могуць перамагчы сацыял-дэмакратаў. А платформай магчымага аб'яднання можа паслужыць і «пракол» Земана, звязаны з ягонай сустрэчай з Лукашэнкам. Іншыя ж аналітыкі, да якіх, здаецца, прыслухоўся чэшскі прэм'ер, мяркуюць, што такая знешнепалітычная акцыя, як візіт да Лукашэнкі, толькі падыме рэйтынг кандыдата ў прэзідэнты. Тут хацелася б нагадаць, як падобную логіку па падняцці свайго рэйтынгу з дапамогаю Лукашэнкі спрабаваў скарыстаць другі сацыял-дэмакрат – Герхард Шродэр. Яму, лідэру нямецкіх сацыял-дэмакратаў, напярэдадні выбараў літаральна падсунулі Лукашэнку. Тады шмат хто ў Германіі казаў, што гэты ўчынак мог дорага каштаваць кандыдату ў канцлеры. Праўда, абышлося. А што да прэм'ера Земана, пакуль цяжка сказаць, наколькі паўплывае на ягоны асабісты рэйтынг і рэйтынг сацыял-дэмакратаў сустрэча з Лукашэнкам.

**Раман ЯКАЎЛЕЎСКІ**

# Купляем беларускае

*Усе мы сведкі таго, як на нашым рынку змагаюцца за беларускага спажыўца маркі сусветна вядомых касметычных фірмаў. Навыперадкі нам прапануюць пазбавіцца ад зморшчак і перхаці, палепшыць стан сваёй скуры, абараніцца пры дапамозе касметычных сродкаў ад шкоднага ўздзеяння навакольнага асяроддзя, стрэсаў і нават вырашыць такія праблемы, як кепскі настрой і няўпэўненасць у сабе.*

Аднак усё больш беларускіх жанчын і мужчын выбіраюць шампуні, крэмы і бальзамы мясцовай вытворчасці – якасць іх не адрозніваецца ад разрэкламаваных заходніх, а кошт значна больш выгадны. Са словазлучэннем «беларуская касметыка» ўжо зараз трывала асацыюецца некалькі агульнавядомых марак: «Беліта», «Белкосмекс», «Модум», «Вітэкс», «Маркел» ды некаторыя іншыя. Зараз можна сцвярджаць, што за апошнія гады прадукцыя беларускіх вытворцаў касметыкі заваявала беларускі рынак. Яны цвёрда трымаюцца ў лідэрах продажаў, а кіраўнікі беларускіх прадпрыемстваў адкрыта заяўляюць, што заходнія калегі на беларускім рынку ім не канкурэнты.

> **Генеральны дырэктар СП «Беліта», Хасан Магаметавіч СЯМЁНАЎ:**
> Сёння мы разам з жаночай касметыкай наладзілі дзве лініі па вырабу мужчынскай касметыкі. Нашая марка *Federiko* на сёння, можна сказаць, ужо здабыла рынак. Мы яе ўдасканальваем, але таксама наладжваем і вытворчасць новых касметычных серый. Па коштавым фактары нашая прадукцыя ахоплівае, без перабольшвання, усе пласты насельніцтва. Мы вырабляем касметыку і для малазабяспечаных, і для дастатковa заможных грамадзян. Зараз мы ўсё больш адчуваем, што пакупнікі вяртаюцца да нашай прадукцыі. Усё больш і больш людзей выбіраюць сёння нашую касметыку менавіта з-за яе сусветнай якасці.

Два гіганты беларускай касметычнай вытворчасці – прадпрыемствы «Беліта» і «Вітэкс». Паводле сацыялагічных апытанняў, гандлёвую марку «Беліта» спажыўцы ставяць на першае месца сярод усіх астатніх. Гэтыя буйныя вытворцы не складаюць адно аднаму канкурэнцыі. Яны ідуць на рынак разам і сумесна на сённяшні дзень могуць прапанаваць беларускаму спажыўцу каля 500 назваў тавару.

«Мы вядзём вельмі жорсткі кантроль за нашым таварам, – гаворыць Хасан Сямёнавіч. – У нашых лабараторыях ёсць усё, каб прадукцыя была найвышэйшай якасці і адпавядала самым высокім стандартам. І нашыя спажыўцы не толькі тут у Беларусі, але таксама і ў Расіі, Украіне, Прыбалтыцы і іншых краінах даюць нам адпаведную высокую ацэнку».

Не сакрэт, што асноўную канкурэнцыю беларускім вытворцам зараз складаюць расійскія. Больш танныя расійскія крэмы і шампуні ў вялікім асартыменце прысутнічаюць на нашым рынку. Гэтую сітуацыю я папрасіла пракаментаваць супрацоўніцу адной з фірмаў па продажу касметыкі.

***Аксана Малчанава, менеджэр:*** Якасць беларускай касметыкі зараз, безумоўна, вышэйшая за расійскую, але часам расійская больш пасуе нашым спажыўцам паводле кошту. Я думаю, што для нашых жанчын асноўным крытэрыем у выбары касметыкі застаецца якасць. Танны крэм можна купіць раз ці два, але калі якасць не адпавядае патрабаванням, тады лепш заплаціць больш.

Я, напрыклад, шампуні купляю выключна беларускія, а вось з крэмам для твару люблю паэксперыментаваць. Зараз самая танная касметыка на рынку – гэта расійская. Напрыклад, агульнавядомая маскоўская фабрыка «Свабода». Але ж там і якасць, прабачце мяне, – мыла смярдзіць, крэмы тлустыя, такое ўражанне, што металічныя цюбікі і іх начынне не змяняліся на працягу апошніх дваццаці год. Але тым не менш гэтую касметыку набываюць, бо яна танная, ці, можа, да яе прывыклі...

***– На што арыентуецца пакупнік пры выбары касметыкі?***

– Я думаю, што жанчыны любяць эксперыментаваць з касметыкай, а ў такім выпадку яны перадусім глядзяць на кошт, упакоўку, а ўжо пасля ацэньваюць якасць. Мужчыны, на мой погляд, больш кансерватыўныя – набыў, спадабалася, і ўвесь час толькі гэта і купляе. У такім выпадку ўсё вырашае звычка.

**Віктар ЛАКОТА, намеснік генеральнага дырэктара ЗАТ «Модум»:**

На нашую прадукцыю заўсёды ёсць попыт. І не толькі таму, што яна, магчыма, больш за астатнія падыходзіць па кошце, але і таму, што ўсё, што мы вырабляем, вылучаецца вельмі высокай якасцю. Наш спажывец – чалавек сярэдняга дастатку. Я перакананы, што для яго якасць – гэта галоўнае.

Сёння мы маем лабараторыю, акрэдытаваную дзяржстандартам на тэхнічную кампетэнтнасць. Хачу адзначыць, што скептычна ставіцца да нашых стандартаў не варта. У нашых стандартах прапісана значна больш параметраў, паводле якіх вызначаецца якасць прадукцыі, чым у заходніх. На Захадзе ўсё скіравана на уніфікацыю рынку, на барацьбу з канкурэнтамі, а не на абарону спажыўца. Якасць заходняй касметыкі – гэта вынік рэкламы. Атрымоўваецца, што яны змагаюцца за спажыўца, а мы тым часам змагаемся за якасць прадукцыі.

Аднак цікава ведаць, што думаюць самі спажыўцы пра касметыку фірмаў «Беліта» і «Вітэкс». З такім пытаннем я звярнулася да пакупнікоў адной з мінскіх крамаў.

**Наталля КАБЕЛКА, выкладчыца БДУ, філолаг:**

Мне падабаецца беларуская касметыка. Я і мая сястра, хоць яна жыве за мяжой, карыстаемся крэмамі для твару і для рук вытворчасці фірмаў «Беліта» ці «Вітэкс». Гэтыя касметычныя сродкі вельмі лагодныя, добра ачышчаюць скуру, маюць прыемны пах. Што да шампуняў, то мне падыходзяць не ўсе, а вось гель і пенкі вельмі добра трымаюць фрызуру. На мой погляд, яны нават лепшыя за замежныя.

Адзін з самых вядомых беларускіх вытворцаў касметычных сродкаў – фірма «Модум». На рынку яна з 1995 г. Пад маркай «Модуму» сёння выпрацоўваюцца крэмы, пенамыйныя сродкі, шампуні, душ-крэмы, вадкае мыла, зубныя пасты, а таксама сродкі бытавой хіміі (вадкасці для мыцця посуду, універсальныя мыйныя сродкі і г.д.). На сённяшні дзень фірма займае адно з першых месцаў у Беларусі па вытворчасці зубных паст і мыйных сродкаў. Невялікая частка прадукцыі ідзе на экспарт – перадусім ва Украіну, Расію, Прыбалтыку. За 7 год працы фірме «Модум» удалося не толькі ўтрымацца на рынку ў даволі складаных эканамічных умовах, але і заняць сваё трывалае месца сярод беларускіх вытворцаў касметыкі, здабыць аўтарытэт у пакупнікоў, пашырыць вытворчасць. Нельга сказаць, што фірма зарэкамендавала сябе ў самай высокай коштавай катэгорыі, але гэта, па словах намесніка генеральнага дырэктара фірмы, акурат выпадак «якасці за невялікія грошы».

**Аляксандр, супрацоўнік Беларускай чыгункі, пакупнік:**

Я ўсё набываю толькі беларускае! Выключна беларускія тавары, бо хачу, каб беларуская эканоміка паднімалася. Якасцю касметыкі я асабіста вельмі задаволены. Французская і побач не стаяла. У мяне не толькі ўся сям'я, усе родныя і знаёмыя набываюць толькі гэтыя шампуні, крэмы і ўсё астатняе. Кошт падыходзіць.

> **Старшыня праўлення ЗАТ «Вітэкс» Віктар ЦЯРЭШЧАНКА:**
> 
> Калі параўноўваць нас з іншымі фірмамі, напрыклад, з сусветна вядомай *Wella*, трэба, канечне, мець на ўвазе, што яны працуюць на рынку больш за 100 год, а мы толькі 10. Яны маюць іншыя, больш дасканалыя тэхналогіі, але сыравінай мы карыстаемся аднолькавай. Мы набываем найлепшую сыравіну ад тых жа пастаўшчыкоў з Аўстрыі, Германіі, Італіі, Францыі, Англіі, што і гэтыя сусветна вядомыя фірмы.

Бясконцыя цюбікі, слоікі, флакончыкі, каробачкі, пластыкавыя бутэлечкі, напоўненыя ружовым, блакітным ці белым, у вітрынах крамаў няспынна цягнуць да сябе шукальнікаў і шукальніц маладосці. Верыць рэкламе ці не – кожны вырашае сам. Толькі асабісты досвед можа падказаць нам правільнае рашэнне. Нягледзячы ні на што, касметыка застаецца ўсяго толькі сродкам дзеля таго, каб падкрэсліць і зрабіць больш выразнай тую прыгажосць і абаяльнасць, якой прырода адорвае кожнага.

**Ядвіга МАЦКЕВІЧ**










Фота Ул. ШЛАПАКА

**ЯЧЭЙКА ГРАМАДСТВА**

## Асабістае жыццё беларусаў

Падсумаваўшы імкненне кожнага чалавека ўладкаваць сваё асабістае жыццё, Міністэрства статыстыкі вывела прыкладна такую карціну. На цяперашні момант каля 66% беларускіх мужчынаў і каля 56% жанчынаў жывуць у шлюбе. Для адных ён толькі першы, а для іншых – ужо другі ці трэці. Мужчыны ўпершыню вырашаюць пабрацца шлюбам з каханай у сярэднім у 24-25 год. І так паціху да 30-гадовага ўзросту да 65% мужчын абзаводзяцца сем'ямі.

У жанчын усё здараецца хутчэй. У іх сярэдні ўзрост шлюбу – 22 гады. Да 24-гадовага ўзросту апрануць белую сукенку і вэлюм патрапляе палова дзяўчат, а 5% з іх ужо паспяваюць нават развесціся.

Класічным лічыцца шлюб, дзе муж старэйшы за сваю жонку. У 67% выпадкаў гэтак і атрымліваецца. Кожны дзесяты шлюб заключаецца паміж раўналеткамі. А вось 22% пар не бачаць нічога дрэннага ў тым, што жонка ў іх старэйшая за мужа. І пераважна розніца паміж узростамі сужонкаў складае толькі адзін год. Пар, дзе розніца большая за 10 год, менш нават за 1%.

Самы крытычны перыяд для шлюбу настае на другім дзесятку гадоў сумеснага жыцця. Якраз тады разыходзіцца кожная трэцяя пара. Галоўнае – вытрымаць у гэты час, бо пасля 20 гадоў сумеснага жыцця напал разбуральных жарсцяў у сям'і спадае. І толькі тром працэнтам пар дастаткова пажыць разам адзін год, каб зразумець, што іхні шлюб быў вялікай памылкай.

Адзін з пяці шлюбаў, што рэгіструюцца ў Беларусі, для аднаго з сужэнцаў ужо не першы. У мужчын паўторнае шлюбаванне прыпадае ў сярэднім на 38 год, а ў жанчын – на 36. Таму ў 40-гадовым узросце вольнага мужчыну ці жанчыну знайсці амаль немагчыма, бо 80% з іх маюць хто яшчэ першую, а хто ўжо другую сям'ю.

Жанчыны жывуць на 10-11 год даўжэй за мужчынаў, таму ўдоўства – гэта збольшага іхняя доля. У 65-гадовым узросце кожная трэцяя жанчына застаецца без мужа, а пасля 70 гадоў толькі адна з трох яго яшчэ мае. Мужчынам даводзіцца хаваць сваіх жонак радзей. Нават пасля 70-гадовай узроставай мяжы ўдаўцоў сярод іх толькі 25%.

Так што вырашайце – жыць самотна, пабрацца шлюбам ці развесціся.

**Алена ЛАБАНАВА**

## Уяўленне Амерыкі грамадзянінам РБ

Каля трэціны апытаных сацыёлагамі жыхароў Беларусі (34 працэнты) бачаць у ЗША краіну дабрабыту і высокага ўзроўню жыцця. Прыкладна столькі ж – краіну, якая скупляе «мазгі» за мяжой (33 працэнты). Гэта звесткі агульнанацыянальнага сацыялагічнага апытання, якое праводзілася ў апошнім квартале мінулага году вучонымі Інстытуту сацыялогіі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. 1 200 рэспандэнтам ва ўзросце 18 гадоў і старэйшым было прапанавана адказаць на пытанне: «У сучасным свеце ЗША ўспрымаюцца па-рознаму. Які з вобразаў ЗША вам здаецца найбольш правільным?».

Кожны чацвёрты рэспандэнт параўнаў ЗША з сусветным жандарам (26 працэнтаў). 16 працэнтаў апытаных жыхароў Беларусі бачаць у ЗША лідэра сусветнага навукова-тэхнічнага прагрэсу, а 14 працэнтаў – гаранта захавання правоў і свабод чалавека.

Па 9 працэнтаў апытаных бачаць у ЗША асноўную крыніцу забруджвання атмасферы Зямлі і дзяржаву, якая пасылае гуманітарную дапамогу краінам, якія маюць у гэтым патрэбу, у тым ліку і Беларусі.

**Леанід ІГНАЦЬЕЎ**

# Са львом на шаўронах

*22 красавіка спаўняецца 60 гадоў славутаму злучэнню Узброеных Сіл Беларусі – 11-ай асобнай механізаванай брыгадзе, якая мае рэпутацыю адной з самых рэфармаваных, а таму лепшых часцей у беларускай арміі. Да 60-годдзя 11-ай асобнай механізаванай брыгады Міністэрства абароны наладзіла для ахвочых журналістаў вандроўку ў Слонім, дзе тая дыслакуецца.*

Напрыканцы Другой сусветнай вайны брыгада займела назоў Прыкарпацка-Берлінскай, бо вызначылася ўдалымі баявымі дзеяннямі, як можна здагадацца, у Прыкарпацці і пры ўзяцці Берліну. Апрача таго, брала ўдзел у бітве на Курскай дузе, а таксама ў вызваленні Украіны ды Польшчы. 45 байцоў сталі Героямі Савецкага Саюзу. Нездарма ж брыгадзе было прысвоена званне гвардзейскай. Потым да пачатку 1990-ых яна размяшчалася ў прадмесцях Дрэздэну, а пасля вываду савецкіх войскаў з тэрыторыі Нямеччыны 11-ая асобная механізаваная брыгада перадыслакавалася ў Слонім.

Па ваенным гарадку ў Слоніме, адкуль, дарэчы, паходзіць цяперашні міністр абароны Беларусі Леанід Мальцаў, журналістаў суправаджалі камандзір брыгады палкоўнік Мікалай Скобелеў, а таксама былы яе камандзір, а цяпер камандуючы войскамі Заходняга аператыўнага камандавання генерал-маёр Анатоль Нікіцін.

Напачатку быў брыфінг, падчас якога А.Нікіцін распавёў, якія рэформы адбываюцца ў беларускай арміі, у прыватнасці ў войсках Заходняга аператыўнага камандавання на Берасцейшчыне і Гарадзеншчыне. Паводле ягоных словаў, галоўны вынік рэформаў ва Узброеных Сілах у тым, што з'явіліся вайсковыя злучэнні, якія знаходзяцца ў пастаяннай баявой гатоўнасці і здольныя ўжо праз некалькі гадзінаў прыняць бой з праціўнікам. Раней гэта заняло б болей за суткі.

Касуюцца гаўптвахты, так званыя «губы», скарачаюцца камендатуры, варты. Цяпер салдаты больш займаюцца баявой падрыхтоўкай. Праца «тэрміноўшчыкаў» перастае выкарыстоўвацца ў падсобных гаспадарках. Курс на павелічэнне гадзінаў баявой падрыхтоўкі выглядае даволі слушна, асабліва калі ўлічыць, што тэрмін вайсковай службы мяркуецца неўзабаве скараціць.

Кіраўніцтва 11-ай асобнай механізаванай брыгады ўзялося паказаць тутэйшае ваеннае жыццё ва ўсіх праявах – ад побыту салдат да вучэнняў на палігоне, паабяцаўшы, што паказухі не будзе, але прызнаўшы, што, натуральна, да прыезду прэсы і наагул да юбілею брыгады ў ваенным гарадку наводзіўся і працягвае наводзіцца адмысловы парадак. Як пажартаваў начальнік Заходняга аператыўнага камандавання Анатоль Нікіцін, «траву не фарбавалі, але падфарбоўвалі».

У казармах, па якіх нас правялі, сям-там яшчэ пахла фарбай. Усё ахайна і строга – па азначэнні. Як і мае быць у арміі. Хоць на ложках – яшчэ старыя, з «савецкіх запасаў», коўдры. І праўда, калі яны яшчэ прыдатныя, ці ж выкідаць? Тым больш, што армія беларуская зусім не заможная. Не хаваў гэтага і Анатоль Нікіцін, заявіўшы, што праблемаў хапае – напрыклад, ёсць пэўны дэфіцыт паліўна-змазачных матэрыялаў і боепрыпасаў. На пытанне аб «дзедаўшчыне» ў 11-ай механізаванай брыгадзе прагучаў адказ «амаль няма».

Не ведаю, ці заўсёды стаяць у ваенных слонімскіх казармах тэлевізар з відэамагнітафонам, але ў часе нашага прыезду яны былі і нават працавалі. У пакоі для адпачынку – більярд, столік з некалькімі газетнымі падшыўкамі. Як было патлумачана, тых выданняў, якія Міністэрства абароны рэкамендавала для падпіскі і чытання ў беларускай арміі. Што за газеты пажадана чытаць маладым салдатам? Гэта, само сабой, «*Во славу Родины*», а таксама «*Советская Белоруссия*» ды «Рэспубліка». Праўда, начальства брыгады давяло, што ў бібліятэцы ваеннага гарадку можна пачытаць і іншую прэсу. У рэлаксацыйным пакойчыку таксама стэнд з гісторыяй Слоніму. Хочацца верыць, што салдаты, якія служаць тут, не толькі ўмеюць страляць, але і ведаюць, што першая згадка пра гэты горад – тады як пра Услонім – была ў Іпацьеўскім летапісе пад 1252 годам.

Самае цікавае чакала журналістаў на Чапялёўскім палігоне, дзе праходзілі вучэнні па стральбе. Гасцям прапанавалі замяніць ручкі на аўтаматы і пастраляць. Але гэтага давялося пэўны час пачакаць: на стрэльбішчы ўсчаўся пажар, бо ад трасіруючых куляў загарэліся трава і кустоўе. Такім чынам, вучэнні перад журналістамі дакладна былі не паказнымі, а ішлі ў звычайным рэжыме. Хоць многія салдаты і афіцэры ад прысутнасці ці то прэсы, ці то камандуючага Заходнім аператыўным камандаваннем трохі хваляваліся. Нехта з афіцэраў брыгады на загад генерал-маёра Анатоля Нікіціна адказаў: «Ёсць, таварыш палкоўнік!» Відаць, па інерцыі, бо званне камандзіра брыгады – палкоўнік. Але будзем спадзявацца, што камандуючы войскамі Заходняга камандавання даруе такое слоўнае парушэнне армейскай іерархіі. Маладыя салдаты ў гутарцы з намі казалі, што А.Нікіцін – «добры чалавек і сапраўдны салдацкі генерал, любіць і шкадуе салдат».

На палігоне, калі мы туды прыехалі, знаходзілася 1-ая мотастралковая рота. На яе прыкладзе была прадэманстраваная новая экіпіроўка беларускай арміі ўзору 2005 году. Яна дае магчымасць аўтаномнага вядзення баявых дзеянняў цягам трох сутак: у прыватнасці, у салдата з сабой ёсць неабходны запас боепрыпасаў, пітной вады і харчоў на гэты тэрмін, а таксама рацыя, каб быць увесь час на сувязі з камандзірам. Гэтага вымагае тактыка вядзення сучаснага бою. Менавіта гэтая рота ў траўні прадставіць Беларусь у сумесных вучэннях дзяржаваў-удзельніц Дамовы аб калектыўнай бяспецы ад 1992 году, што пройдуць каля Масквы. Як распавёў камандзір брыгады Мікалай Скобелеў, паедзе гэтая рота туды ўжо ў новай форме з новымі шэўронамі з львом на блакітным полі (герб Слоніму), каб яна прайшла палявыя выпрабаванні.

А вось танкавых вучэнняў на палігоне ў Чапялёве мы не пабачылі. На дзень нашага візіту яны запланаваныя не былі, дый у прынцыпе праходзяць не часта. Дарагая справа: баявы танкавы снарад каштуе 270 даляраў, а каб на палігоне адзін раз патрэніраваўся цэлы танкавы батальён, трэба 60 тысяч даляраў. Затое нам паказалі, як наводчыкі танкавых гармат праходзяць пачатковую баявую падрыхтоўку на спецыяльных камп'ютэрных трэнажорах, якія імітуюць палігонныя ўмовы і знаходжанне ў кабіне танку, праўда, у спакойным стане, без гойдання. На трэнажорах «стралялі» тры экіпажы, і тыя, хто выканаў заданне на «выдатна», атрымалі па 5 дадатковых сутак да адпачынку. Прынамсі, так сказалі пры нас іхнія камандзіры. Праўда, гэтыя трэнажоры ўжо састарэлі, і таму неўзабаве з'явяцца новыя, больш сучасныя, прычым беларускай вытворчасці.

Апрача таго, журналістам паказалі музей ваеннай формы, дзе сабраныя пагоны, мундзіры, фуражкі ўсіх родаў войскаў былой савецкай арміі (цікавы факт: у савецкіх войсках пагоны з'явіліся толькі ў 1943 годзе), беларускай, расійскай, украінскай, польскай, венгерскай, нават афганскай і егіпецкай. Такога багацця экспанатаў больш няма нідзе ані ва Узброеных Сілах Беларусі, ані ў прыватных калекцыях. Давялося пабываць таксама на занятках у кадэцкай школе, дзе вайсковую навуку па адмысловай праграме дапрызыўной падрыхтоўкі спасцігаюць ахвочыя на тое слонімскія школьнікі старэйшых класаў, якія маюць намер паступаць у ваенную акадэмію. Такія кадэцкія класы ў Слоніме дзейнічаюць ужо 5 гадоў. Большасць іхніх выпускнікоў паступае ў Ваенную акадэмію, у першым выпуску 14 чалавек з 20. Сёлета яны сканчаюць яе і вяртаюцца служыць у брыгаду.

Была пятніца; у беларускай арміі гэта традыцыйна «паркавы дзень», калі рамантуецца ваенная тэхніка, і журналістаў звазілі ў майстэрні. У Міністэрстве абароны лічаць, што не толькі дробны, але і больш сур'ёзны рамонт ваеннай тэхнікі мусіць рабіцца непасрэдна ў самім войску. Раней зламаную тэхніку даводзілася транспартаваць на рамонтныя заводы. Немалаважнае месца займае ў частковым самазабеспячэнні і вядзенне падсобнай гаспадаркі. У той, што існуе пры 11-ай механізаванай брыгадзе, гадуюць свіней, кароваў, карпаў, вырабляюць малако ды смятану, вырошчваюць капусту ды агуркі. Вайскоўцы хваліліся, што, маўляў, «такіх свіней у калгасах не пабачыце». І майстэрні, і жывёлагадоўля з раслінаводствам даюць досыць значную эканомію бюджэтных грошай.

Праводзілі журналістаў з аркестрам. Як важных гасцей, бо праз каго яшчэ народ даведаецца пра армейскія рэформы? Натуральна, што ў такім закрытым і кансерватыўным арганізме, як армія, ды яшчэ ў небагатай краіне яны не могуць ісці вельмі гладка і хуткімі тэмпамі. Але добра ўжо тое, што Мінабароны дае ўстаноўку на рэформы. Ад гэтага залежыць прэстыж нашай арміі.

**Кірыла ПАЗЬНЯК,**
**фота Ул. ШЛАПАКА**



«Паркавы дзень»: рамонт брыгаднай тэхнікі



Наводчыкі танкавых гармат займаюцца на трэнажорах



Гэта малая частка музею ваеннай формы




Салдаты з 1-ай мотастралковай роты



Аўтар гэтага матэрыялу цэліць са снайперскай вінтоўкі ў варону



# Беларускі галаўны боль

## Расійскі погляд на беларускія праблемы

*Расійскі бізнес даўно цікавіцца прамысловай уласнасцю ў Беларусі. З аднаго боку, гэты інтарэс зразумелы: у Беларусі ёсць танная працоўная сіла, танныя (за кошт Расіі) энерганосьбіты. Беларускія нафтаправоды лічацца асноўнымі шляхамі экспарту расійскай нафты ў Заходнюю Еўропу.*




А новаполацкі нафтаперапрацоўчы завод «Нафтан», Мазырскі НПЗ і нафтахімічныя прадпрыемствы «Палімір» і «Азот» істотна бліжэйшыя да заходніх рынкаў збыту, чым расійскія нафтаперапрацоўчыя і нафтахімічныя заводы, а гэтая блізкасць дазволіла б расійскім кампаніям эканоміць пры экспарце каля 15 даляраў з тоны нафтапрадуктаў. Ёсць інтарэс і да беларускай аўтапрамысловасці – да мінскага аўтамабільнага заводу і да «БелАЗу». Імі даўно цікавіцца «Расійскі алюміній», які жадае да свайго «ГАЗу» далучыць яшчэ штонебудзь адносна таннае і металаёмістае.

З іншага боку, казаць пра вялікую эканамічную прывабнасць беларускіх прадпрыемстваў не выпадае. Калі да праблемы зношанасці асноўных фондаў беларускіх заводаў можна ставіцца па-філасофску – гэта не бянтэжыць расійскіх пакупнікоў, якія і не такое бачылі, – дык праблема беларускага бацькі здаецца пакуль невырашальнай.

Капрызны бацька можа выставіць немагчымыя ўмовы, узяць у патэнцыйных пакупнікоў грошы і не даць нічога ўзамен, як гэта было з півагарняй «Балтыка», якая ўклала ў мінскі завод «Крыніца» больш за дзесяць мільёнаў даляраў, а ў адказ не пачула нават «дзякуй». Ужо пасля ўкладання грошай у вытворчасць Лукашэнка выставіў дванаццаць дадатковых умоваў да інвестараў. Сярод гэтых умоваў было, напрыклад, будаўніцтва лядовага палацу.

За апошнія некалькі дзён перад візітам у Маскву Аляксандр Лукашэнка прыняў шасцярых буйных расійскіх прадпрымальнікаў і ўсім абяцаў падтрымку (хаця большасць гэтых прадпрымальнікаў прэтэндуе на адну і тую маёмасць) і захаванне правоў уласнікаў. Ці можна верыць Лукашэнку на гэты раз, пакажа час. Вядома, што буйныя расійскія кампаніі (той жа «Русал», напрыклад, або «ЛУКойл») дапамагалі бацьку грашыма ў час ягонае цяжкое выбарчае кампаніі і даўно ўжо разлічвалі на вяртанне пазычанага.

Але ж такія палітычныя пагадненні афіцыйна не афармляюцца. Паспрабуй зараз давядзі, каму і колькі вінен бацька. Аднак, мяркуючы па ўсім, пакрыўджаныя расійскія прадпрымальнікі або іх прадстаўнікі дайшлі да Пуціна і паскардзіліся на паводзіны Лукашэнкі.

Уладзімір Пуцін, у адрозненне ад Барыса Ельцына, бацьку адкрыта недалюблівае.

Магчыма, ён бы даўно ўжо адмовіўся ад ідэі аб'яднання двух краін, але нельга: і электарат можа не зразумець, ды і аб'ядноўвацца шмат па якіх прычынах усё ж такі трэба, але пажадана не з бацькам. Застаецца толькі чакаць заканчэння палітычнага веку Лукашэнкі і пацішу рыхтавацца да пераменаў у Беларусі. Да таго ж расійска-беларускі саюз – вельмі ўтульнае месца да персанажаў, што аджылі свой палітычны ці чыноўны век, накшталт Пал Палыча Барадзіна. Зашмат у Расіі такога люду, які цяперашняя ўлада хацела б адправіць падалей, але без лішняга розгалосу ды публічных прыніжэнняў, бо шмат яны ведаюць і могуць пры выпадку расказаць.

Але, з іншага боку, тыя ж самыя людзі спрыяюць распаўсюджванню расійскага бізнесу ў Беларусі тымі ж самымі метадамі, якімі карысталіся ў сваё лепшыя гады, прасоўваючы ў Расіі тых ці іншых бізнесменаў. А ў бацькі – іншыя метады і іншыя улюбёнцы. Але яму вельмі патрэбная калі не любоў, дык хаця б падтрымка Пуціна. І таму напярэдадні свайго візіту ў Расію бацька абвясціў пачатак кампаніі па прыватызацыі і акцыянаванні буйнейшых беларускіх прадпрыемстваў, абяцаючы разглядзець тры дзесяткі інвестыцыйных праектаў на агульную суму прыблізна ў мільярд даляраў. Пры гэтым, безумоўна, маюцца на ўвазе расійскія інвестары – ніхто іншы ў Беларусь і сунуцца не хоча.

**Вольга РАМАНАВА**
**Vesti.ru**

# Ветраныя электрастанцыі ФРГ

Першыя ветраныя электрастанцыі ў моры ля берагоў ФРГ пачнуць выпрацоўваць электраэнергію на прамысловай аснове ўжо ў канцы 2004 году.

Паводле планаў рэалізацыі грандыёзнага праекту, у 2003 годзе пачнецца будаўніцтва першага парка «ветракоў» у Паўночным моры за 30 км ад заходняга ўзбярэжжа федэральнай зямлі Шлезвіг-Гальштайн. Комплекс будзе ўключаць 80 ветраных энергетычных установак, усталяваных на жалезабетонных падмурках на дне мора. Як мяркуюць спецыялісты, ветраныя электрастанцыі марскога базавання дазволяць палепшыць электразабеспячэнне курортнае выспы Зільт, а да таго ж стануць прывабным «атракцыёнам» для турыстаў. Эксперыментальныя электрастанцыі ў моры пачнуць працаваць ужо ў 2003 годзе. Агулам у Паўночным моры мяркуецца збудаваць дзесяць прамысловых паркаў ветраных электрастанцыяў і яшчэ чатыры – у Балтыйскім.

Гэтак Германія замацуе свае пазіцыі сусветнага лідэра ў выкарыстанні энергіі ветру.

Сёння ў ФРГ налічваецца больш за 11,5 тыс. ветраных электрастанцыяў агульнай магутнасцю каля 9 тыс. мегават. Дзеля параўнання: у ЗША гэты паказчык складае менш за 3 тыс. мегават. Сярод германскіх земляў першынство належыць Ніжняй Саксоніі, у якой дзейнічае больш за тры тысячы такіх электрастанцыяў, што забяспечваюць 10% патрэбаў васьмімільённага насельніцтва ў энергіі. У цэлым па Германіі доля экалагічна чыстых «ветраных» электрастанцыяў у энергетычным балансе краіны складае 3,5%. Пасля ўводу ў дзеянне новых ветракоў гэты паказчык да 2004 году павысіцца да 5%.

**Алег АРЦЮШЫН**

# У Ціхім акіяне фармуецца Эль-Ніньо

12 красавіка агенцтва *Associated Press* паведаміла: амерыканскія метэаролагі выявілі, што ў Ціхім акіяне зноў пачалося фармаванне цячэння Эль-Ніньо. Гэта азначае, што ў самы бліжэйшы час трэба чакаць іншых катастрафічных наступстваў – ураганаў, смерчаў, паводак, засух. Па дадзеных даследчыкаў, пра гэта сведчаць нязвыклае пацяпленне вады ў цэнтральнай частцы Ціхага акіяну і павелічэнне дажджавых ападкаў ва ўсходніх тропіках.

Нагадаем, што Эль-Ніньо – цыклічны: ён з'яўляецца раз у некалькі гадоў. Апошні раз ваганні атмасфернага ціску над Ціхім акіянам пачаліся ў ліпені 1997 г., і да пачатку 1998 г. нанесены імі ўрон ацэньваўся ў $33 млрд. Тады загінула 5 тыс. чалавек ад паводак, засухі і эпідэміяў, а таксама ад голаду, выкліканага неўродам.

# Гібель «Тытаніка»



90 год таму ў водах Атлантыкі патануў знакаміты «Тытанік». «Мы зробім вашае жыццё незабыўным. «Тытанік» – карабель мары». Гэты рэкламны заклік павінен быў завабіць пасажыраў на борт легендарнага карабля. Кампанія ўдалася. У першае і апошняе сваё плаванне «Тытанік» выправіўся запоўнены практычна дарэшты.

Гэты быў адзін з першых акіянскіх лайнераў, вышынёю ў 11-павярховы дом і даўжынёю ў 4 гарадскія кварталы. Кошт білетаў быў такі ж унушальны, як і памеры судна. Апартаменты першага класу каштавалі 4 тысячы амерыканскіх даляраў – 50 тысячаў у пераліку на сучасныя грошы.

Газеты ахрысцілі «Тытанік» плаваючым палацам за ягоныя бясконцыя калідоры, шырокія сходы і гасцёўні з зімовымі садамі.

Шмат было галасу і вакол канструкцыі судна. 16 воданепранікальных адсекаў з перагародкамі – прататып сучаснай сістэмы – маглі ўратаваць карабель нават ад прамога пападання тарпеды. «Тытанік» быў аб'яўлены непатапляльным.

Ён загінуў у выніку фатальнага збегу абставінаў. На моры быў поўны штыль, пры такіх варунках айсбергаў практычна не відаць. Карабель ішоў на максімальнай хуткасці. Ледзяная глыба ўдарыла проста па ватэрлініі, уздоўж чатырох адсекаў. Ўратаваць судна пасля гэтага было ўжо немагчыма. «Тытанік» патануў менш чым за 2 гадзіны.

Катастрофа прымусіла перагледзець усю сістэму ратавання людзей з караблёў, якія тонуць. Аднак кошт памылкі, якую дапусцілі творцы «Тытаніка», быў вялізны – трагедыя забрала 1 523 чалавечыя жыцці.

# Кітай заблытаўся ў Сеціве

**Дэвід ШЭФФ,**
**аўтар кнігі «Кітайскі світанак: гісторыя тэхналагічнай і бізнес-рэвалюцыяў»**



У праблемах, якія перад камуністычным кіраўніцтвам Кітаю ставіць інтэрнэт, няма нічога «віртуальнага». Выконваючы жыццёва важную ролю ў імкненні Кітаю да мадэрнізацыі і глабалізацыі, інтэрнэт, аднак, пагражае палітычнаму статус-кво. Таму не выклікае здзіўлення часта шызафрэнічная рэакцыя на яго з боку ўраду: у той час, як развіццё інтэрнэту ў цэлым заахвочваецца, некаторыя партыйныя фракцыі стараюцца здушыць яго арыштамі інтэрнэт-прадпрымальнікаў і вэб-дысідэнтаў. Тым не менш інтэрнэт-карыстальнікі ў Кітаі, колькасць якіх падвойваецца кожныя дзевяць месяцаў і перавышае цяпер 35 мільёнаў, маюць доступ да вялізнае колькасці падцэнзурнай інфармацыі, улучна з афіцыйна забароненымі сайтамі.

Ужо адбыліся ашаламляльныя змены. Калі крыху больш за год таму 42 чалавекі – вучні і настаўнікі пачатковай школы ў беднай правінцыі Цзянсі – загінулі пры выбуху, мясцовыя кітайскія газеты і інфармацыйныя сайты ў Сеціве падалі гэтую падзею як страшны вынік выкарыстання дзіцячай працы: дзевяцігадовых дзяцей прымушалі ставіць дэтанатары на петарды і іншыя піратэхнічныя сродкі, каб настаўнікі маглі прадаваць іх, атрымліваючы такім чынам дадатковы прыбытак.

Праз два дні пасля трагедыі прэм'ер Дзяржсавету КНР Чжу Жунцзі выступіў з абвяржэннем. Ён заявіў, што выбух – справа рук «вар'ята». Дзяржаўныя СМІ, што вельмі тыпова для Кітаю, тут жа адмовіліся ад першапачатковай версіі здарэння, каб не пярэчыць партыйнай лініі. Але, што нетыпова для Кітаю, праўды не ўдалося аддаць забыццю.

У інтэрнэт-форумах і чатах грамадзяне Кітаю працягвалі выказваць сваё абурэнне палітыкай хавання ўрадам сапраўдных фактаў. У Сеціве былі апублікаваныя доказы хлусні партыйнага кіраўніцтва, уключаючы інтэрв'ю са сведкамі падзеяў. Адны вэб-сайты пазней выдалілі гэтую інфармацыю, іншыя адмовіліся гэта зрабіць. Спасылкі на малавядомыя сайты з не праверанымі цэнзурай навінамі пра катастрофу можна было знайсці нават на афіцыйнай старонцы ўрадавай газеты *People's Daily*.

І праз некалькі дзён з Кітаю прыйшлі неверагодныя весткі: «У адказ на хваляю публікацыяў і каментарыяў у інтэрнэце прэм'ер Дзяржсавету КНР Чжу Жунцзі папрасіў прабачэння за выбух, які знішчыў пачатковую школу ў сельскай правінцыі краіны». Чжу Жунцзі заявіў, што ўрад нясе поўную адказнасць за сітуацыю, якая склалася, і загадаў пачаць расследаванне. Такога павароту не чакаў ніхто. Прэм'ер Дзяржсавету папрасіў прабачэння найперш у адказ на шырокі грамадскі пратэст, выказаны праз інтэрнэт.

Можна сказаць, што Камуністычная партыя «патрапіла ў сетку» інтэрнэту, бо ўрад не можа адключыць краіну ад Сеціва без стратаў для эканомікі. Больш за тое, напэўна, Кітаю нават давядзецца аслабіць ужо ўведзеныя абмежаванні, калі ён хоча карыстацца ўсімі перавагамі інтэрнэту; гэта стане магчымым, калі толькі ў звязку з блізкай зменай кіраўніцтва не аб'ядноўцца кансерватыўныя фракцыі, якія сур'ёзна баяцца ўплыву інтэрнэту.

Па меры таго, як грамадская думка ў Кітаі набірае моц, тым, хто жадае мець уплыў у краіне, давядзецца дамагацца прыхільнасці як ураду, так і народу. Інтэрнэт даў звычайным кітайцам доступ да праўды, а таксама магчымасць выказваць сваю думку, і гэта азначае, што яны могуць разам уносіць змены ў жыццё сваёй нацыі.

**© Project Syndicate, красавік 2002**

# Псіхолагі ўволю паздзекаваліся з вінных экспертаў

Псіхолагі з часопісу *Psychology Today* падманулі групу дэгустатараў віна, разбавіўшы белае віно чырвонай фарбай, паведамляе *Anapova*.

Журналісты-псіхолагі сабралі 54 вінных экспертаў у французскай правінцыі Бардо. Ім раздалі ўзоры белага віна, дадаўшы ў яго фарбавальнік без смаку. Ніводзін спецыяліст не зразумеў, што віно было падробленае. Яны ўсе паверылі, што каштуюць сапраўднае чырвонае віно.

Апрача таго, яны высока ацанілі таннае віно, якое ім падалі ў дарагой бутэльцы. Адразу ж пасля гэтага ім падалі той самы напой, але ўжо ў арыгінальнай бутэльцы. На гэты раз эксперты не далі маху і раскрытыкавалі напой.

«Гэта псіхалагічная з'ява, – адзначае часопіс. – Яны ацэньвалі напой гэтак, як меліся ацаніць чырвонае віно». Спачатку яны ўзнагародзілі таннае віно з дарагой бутэлькі эпітэтамі «цудоўнае», «цікавае» і «чыстае». У другой частцы эксперыменту яны ўжылі тэрміны «нецікавае», «слабое» і «вадзяністае».

# Міжусобіца ў Курапатах

### Абвяржэнне

У НАШАЙ СВАБОДЗЕ за 9.04.2002 г. быў надрукаваны матэрыял «Крыжовая дарога ў Курапатах» аўтарства Марата Гаравога. Там паведамляецца пра штосуботнюю талаку ў Курапатах і, у прыватнасці, пра апошнюю талаку, што адбылася 6 красавіка. Аўтар абапіраецца на словы сп. С.Сахарава, прадстаўніка грамадскай ініцыятывы «За ўратаванне мемарыялу Курапаты». Згадваюцца таксама супольнасць «Мартыралог» і ГА ТБМ як «ініцыятары работ па доглядзе за пахаваннямі і па добраўпарадкаванні». Мусім адзначыць, што гэты матэрыял нясе дэзінфармацыю і не адлюстроўвае сапраўднага стану рэчаў. Згаданыя асобы і арганізацыі не маюць ніякага дачынення да крыжовай дарогі ў Курапатах (паказанай на здымку ў газеце). Іхніх прадстаўнікоў не было на талацэ 6 красавіка. Ідэя і выкананне крыжовай дарогі ў Курапатах належыць сябрам Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» пад кіраўніцтвам Зянона Пазьняка і Кансерватыўна-Хрысціянскай Партыі-БНФ. 6 красавіка менавіта нашыя сябры працавалі на талацэ ў Курапатах, пра што ў сродкі масавай інфармацыі было пададзенае паведамленне. Сябры Фронту і яго Кансерватыўна-Хрысціянскай Партыі-БНФ працягваюць стварэнне Народнага мемарыялу «Лес Крыжоў» ва ўрочышчы ў Курапатах.

**Прэс-служба КХП-БНФ**

Рэдакцыя не магла апублікаваць тэкст гэтага абвяржэння раней, бо мусіла ўдакладніць некаторыя факты. У мінулую суботу ў Курапатах сябры КХП-БНФ зноў талакою высякалі кустоўе, чысцілі лес, прыбіралі камяні. Былі там, відаць, і не належныя да КХП-БНФ людзі, але пасведчанняў на талацэ не пытаюць. Быў праваслаўны святар, які чамусьці скарыстоўваў узноўлены амерыканскі дарунак – гранітную лаву – для прыладаў сваёй службы. Крыжоў гэтым разам не ўкопвалі, але з тэхнічных прычын: іх не паспелі прывезці. Таму далейшае «выкананне крыжовай дарогі», ідэя якой «належыць сябрам Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» пад кіраўніцтвам Зянона Пазьняка і Кансерватыўна-Хрысціянскай Партыі-БНФ», будзе працягнутае ў наступную суботу. Сапраўды, ні «Мартыралог», ні грамадская ініцыятыва «За ўратаванне Курапатаў» да стварэння «Народнага мемарыялу «Лес Крыжоў» дачынення не маюць.

Засведчаная на здымку «крыжовая дарога» – гэтыя адзін у адзін стандартызаваныя, як салдаты прэзідэнцкай роты ганаровай варты, некалькі дзесяткаў крыжоў – пастаўлена выключна сябрамі КХП-БНФ, па іхнай задуме і праекце. Памылкова лічыць свежыя крыжовыя шыхты плёнам узгодненага плану і агульнай справы тых людзей, якія лічаць неабходным узвесці ў Курапатах мемарыял ахвярам сталінскага генацыду, адпаведны маштабам зведанай трагедыі.

Таму натуральна ўзнікае пытанне, на якой падставе да сукупнасці аднолькавых крыжоў прыкладаецца назва «народнага мемарыялу»? Пры ўсім жаданні немагчыма ўзгадаць хоць якога з'езду, якіхсьці сходаў, нейкага арганізаванага збору подпісаў для надання ад імя народу паўнамоцтваў адколатаму крылу БНФ узводзіць «народны мемарыял» і якраз у такім выглядзе. КХП-БНФ не ўдзельнічае ў грамадскім абмеркаванні канцэпцыі мемарыялу і не выстаўляла на грамадскі агляд свой праект «крыжовай дарогі». Недзе ў сваім коле было прынятае рашэнне паставіць шыхты крыжоў. Так бы мовіць, зрабіць «сапраўдную справу», пакуль іншыя лямантуюць на абмеркаваннях і дыскусіях пра вобраз і канцэпцыю мемарыялу, пра адпаведную сімволіку і магчымасці рэалізацыі. Людзі хуткага дзеяння без ценю сумневу і ставяць выпрабленыя на ўласны густ сімвалы пакуты, ні на кога не зважаючы, нібыта ўва ўласнай сядзібе. Не надта паважным духам прыватызацыі месца смутку вее ад такога паскоранага стварэння «народнага мемарыялу».

Аднак, пры ўсёй павазе да самаадданасці і працавітасці наўрад ці хто пагодзіцца лічыць сябраў КХП-БНФ выключнымі патронамі ўрочышча Курапаты. Гэтае месца масавых забойстваў бязвінных людзей мае статус народнай святыні, і якім быць мемарыялу – не можа вырашацца адасобленай купкай людзей.

Любая саматужная творчасць і ўшанаванне памяці ахвяраў сталіншчыны падручнымі сродкамі на ўзроўні асабістага густу і ўпэўненасці ў здзяйсненні місіі толькі шкодзіць статусу Курапатаў. Не трэба доўга даводзіць, што «крыжовая варта», пастаўленая ўздоўж прасекі для газаправоду, якую беспадстаўна мянуюць Алеяй, – безумоўны нонсенс. Яна ўзнікла выпадкам, па волі будаўнікоў газавай трасы, і не існавала ў тыя змрочныя гады, калі карнікі адымалі тут у людзей жыцці. Што ж тады асвячаюць два шэрагі крыжоў уздоўж іржавай трубы, непаважна пракладзенай у савецкі час праз брацкія магілы?

Гэтак жа недарэчна стаіць паблізу Крыжа пакутаў брызентавы намёт, які служыць прытулкам «абаронцам Курапатаў» і якому доўгія гады армейскага выкарыстання і дзікаваты комін ад «буржуйкі» над дзіркай у даху надае рысы тыповага жытла бамжоў з якога-небудзь лацінаамерыканскага біданвілю. Але гэтаксама не да месца быў бы тут і ладны новы дамок для валанцёраў «вахты памяці». Шануючы асабістую мужнасць канкрэтных валанцёраў, усё ж варта задацца пытаннем, што менавіта яны пільнавалі? Стары памер МКАД? Дык шашу ўсё роўна пашырылі згодна з праектам. Крыжы ды папяровыя іконкі, прымацаваныя да дрэваў, сілай якіх спадзяваліся спыніць наступ будаўнічай тэхнікі? Для назіранняў за выкананнем будаўнічых работ і тлумачэння рабочым неабходнасці ашчадна ставіцца да лесапасадак урочышча можна было прыязджаць туды ранкам і праводзіць ноч дома. Не патрэбнымі былі б абвесткі Маладога Фронту ды БПС аб пажаданай гуманітарнай дапамозе ў выглядзе абутку, прадуктаў і дроваў. Недасведчаны чалавек мог падумаць (некаторыя і думалі), што «вахта памяці» сядзіць недзе ў пушчы, а не за пяць хвілінаў павольнай хады ад кальцавога прыпынку аўтобусаў і тралейбусаў.



Фота Ул.ШЛАПАКА

Тое, што зрабіла Курапаты трагічнай памяццю народа, што мае быць ушанавана мемарыялам, – пільнаваць не трэба. Яго не скрадзеш, не засыплеш пяском і жвірам, не разгоніш дубінкамі АМАПу. Гэта гукі стрэлаў, што гучалі за драўляным плотам Курапацкага расстрэльнага палігону, гэта стогны з брацкіх магілаў, гэта шматтысячны спіс ахвяраў і вечны боль стратаў. Хто пра гэта ведае і навучаны спачуваць, той і будзе спачуваць, заўжды чуць тыя жахлівыя стрэлы і стогны незалежна ад таго, колькі ў Курапатах будзе крыжоў – адзін маленькі ці сотні вялікіх, пастаўленых у шнур.

Ніхто сёння не ведае, дзе знаходзіцца магіла Кастуся Каліноўскага. Ягоны кат генерал-губернатар Мураўёў загадаў зраўняць яе з зямлёй. І чаго ён дамогся? Што мільёны людзей трымаюць памяць пра Каліноўскага ў сэрцы.

Мінулая субота ў Курапатах была адзначана яшчэ адной міжусобнай спрэчкай. Мая Тодараўна Кляшторная як навуковы кіраўнік праекту рэканструкцыі МКАД каля Курапатаў пагадзілася з прапановай будаўнікоў праклясці ў нізіннай частцы ўрочышча дрэнажную трубу для адводу вады. Для гэтага трэба падняць у нізіне ўзровень грунту на 70 сантыметраў (засыпаць балотца зямлёй), зняць намёт і высекчы колькі дрэваў пад траншэю вадаводу. Гэтае, у дадзеных абставінах самае разумнае, рашэнне было сустрэта «абаронцамі Курапатаў», як той казаў, у штыкі. Было прыкра назіраць, як людзі, якія не маюць маральнага права выстаўляць хоць якія папрокі спадарыні Кляшторнай, вінавацілі яе ледзьве не ў здрадзе, у «неразуменні». Гэтая сталага веку жанчына, бацька якой расстраляны ў Курапатах, ішла пасля гэтых спрэчак па «алеі», аздобленай «лесам крыжоў», на вачах у яе былі слёзы, а навокал рупіліся стваральнікі «народнага мемарыялу» – адны капалі ямы пад новыя крыжы, другія абяцалі абараніць намёт, нехта патрабаваў перарабіць праект МКАД гэткім чынам, каб вада пайшла ў другі бок насуперак законам прыроды.

У запале палітычнага супрацьстаяння Курапаты ўжо падзялілі. Людзі, якія яшчэ не так даўно былі аднадумцамі, гавораць суполка пра суполку, асоба пра асобу з відочнай непрыязнасцю. Лепш бы не азмрочваць гэтага святога месца дробнымі амбіцыйнымі звадкамі і здзяйсненнем местачковых праектаў.

Курапаты назаўжды ўвайшлі ў сусветную гісторыю, і выціснуць гэтую трагедыю з памяці чалавецтва ўжо не па сілах нікому. Можа, час зразумець, што мемарыял у Курапатах мусіць быць народным па сабраных сродках і мастацкім па творчым вырашэнні? Без спаборніцтва на «абаронную» хуткасць.

**Аддзел культуры**





Фота Ул.ШЛАПАКА



**ГАСТРОЛІ**

## «Малітва» французскіх акцёраў

*На падмостках Моладзевага тэатру ў Гомелі адбылася прэм'ера незвычайнага спектаклю пра Чарнобыльскую катастрофу.*

Прафесійныя акторы з французскага гораду Клермон-Феран, пабраціма Гомелю, адлюстравалі нацыянальную трагедыю беларусаў у адмысловым спектаклі паводле кнігі Святланы Алексіевіч «Чарнобыльская малітва». Паставіў спектакль рэжысёр Бруна Бусаголь. У Францыі ён асабіста сустракаўся з пісьменніцай і нават узгадняў пастаноўку. Гэта, падаецца, першае на Беларусі сцэнічнае ўвасабленне герояў дакументальнай чарнобыльскай аповесці, вядомай у многіх краінах свету.

Спектакль ідзе на французскай мове без перакладу.

– Мы лічылі, – распавядае на добрай беларускай мове акторка з Францыі Вірджынія Шыманец, – што беларусы лепш за французаў ведаюць змест кнігі. Тут няма чаго тлумачыць. Толькі трэба ўсё выказваць найпрасцей. Эмоцыі ж людзі вельмі добра разумеюць.

Вірджынія – не проста акторка. Яна яшчэ драматург, рэдактарка часопісу «Беларускія перспектывы» і доктар мастацтвазнаўства. Абараніла ў Сарбоне дысертацыю пра беларускі тэатр.

– Калі выбухнуў Чарнобыль, мне было 18 гадоў, – успамінае госця з Францыі. – Потым я стала забываць Чарнобыль. Як і ўсе. Мы ўсе забылі, што была катастрофа. У нас ёсць 60 атамных станцый. Мы маем моц зруйнаваць планету. Як грамадзянку Францыі мяне гэта хвалюе. У Францыі ёсць таксама хворыя людзі. Нам казалі, што радыеактыўнае воблака Чарнобылю не пераходзіла нашай мяжы. А людзі ўсё ж такі захварэлі. Тры тыдні назад у Францыі людзі гуртаваліся, каб пікетаваць дзяржаўныя ўстановы. Яны кажуць, што французскія ўлады хлусілі. Новая палітыка толькі распачынаецца. Відаць, трэба, каб людзі змянілі свой погляд на жыццё.

У сваю чаргу гамельчукі да спектаклю пра Чарнобыль паставіліся з прахалодаю.

– Білеты на «Чарнобыльскую малітву» купляюцца кепска, – кажа дырэктар Моладзевага тэатру Галіна Шофман. – І гэта не палітычная акцыя. Людзі, відаць, стаміліся ад рэальных праблемаў і не хочуць пра іх нават слухаць.

Між тым рэжысёр Бусаголь з дзесяткам акцёраў змушаў літаральна ўсіх, хто прыходзіў у Моладзевы тэатр, занава адчуць, як глыбока трагедыя пранікла ў душы людзей. Яна перавярнула ўсе звыклыя ўяўленні пра жыццё і смерць. Маналогі-малітвы ахвяраў на чорных абвугленых пяньках перад запаленымі свечкамі гучаць то з самотай, то з адкрытым адчаем. І ўсёй істотай разумееш, што ні самота, ні выхвалянне, ні нават крык радыяцыі не перамогуць.

«Што такое радыяцыя?» – пытаецца адна з самасёлак у кнізе «Чарнобыльская малітва». І сын ёй адказвае: «Мама, гэта смерць такая».

**Анатоль ІВАНОЎСКІ**

СПОРТ

## Свята адкрыцця сезону?

У пятніцу стартаваў чарговы чэмпіянат Беларусі па футболе ў вышэйшым дывізіёне. У любой іншай краіне, дзе футбол лічыцца відам спорту нумар адзін, гэта было б безумоўнай падзеяй. Так было ў мінулыя гады і ў нас, але гэты чэмпіянат, дванаццаты па ліку, мусіць, будзе тым самым пунктам пікіроўкі, пра які ўвесь час казалі, маўляў, вось ён ужо хутка будзе. Па падборы гульцоў амаль усе каманды маюць найгоршы за ўсе гады паказчык. Прыемным выключэннем з'яўляюцца толькі барысаўскі БАТЭ ды мінскае «Дынама», клубы, якія маюць больш-менш прыстойнае фінансаванне. Палова ж камандаў увогуле знаходзіцца на мяжы існавання. Смешна сказаць, заробак гульцоў віцебскага «Лакаматыва-96» у гэтым годзе складзе крыху больш за 80 тысяч рублёў! Пры гэтым смешнымі выглядаюць дзеянні кіраўніцтва Беларускай федэрацыі футболу, якая з наступнага году пашырае склад камандаў вышэйшага дывізіёну з 14 да 16 клубаў, хаця відавочна напрошваецца скарачэнне эліты, калі яе можна так назваць, да 12 камандаў. Такім чынам, пакіне эліту толькі адна каманда, а ўвойдзе ў яе аж тры!

Непрыемная тэндэнцыя з году ў год праследуе беларускіх футбольных чэмпіёнаў. Варта толькі нейкаму футбольнаму клубу выйграць золата, і каманда тут жа церпіць эканамічны крах і пасля, зразумела, праваліваецца на самым старце Лігі чэмпіёнаў. Так было з мазырскім «МПКЦ», магілёўскім «Дняпром-Трансмашам»... Так зараз здарылася, на жаль, і з бабруйскай «Белшынай». Каманда ў міжсезонне ледзь не развалілася, правaліла Кубак чэмпіёнаў Садружнасці. І чакаць ад бабруйчан нейкіх вынікаў у еўрапаборніцтвах не выпадае...


Фота IREX/ProMedia

Але ж футбольны сезон на Беларусі – гэта не толькі чэмпіянат рэспублікі. Увосень стартуе адборачны турнір да чэмпіянату Еўропы, у якім каманда Эдуарда Малафеева плануе змагацца за самыя высокія месцы. Ну і, канечне, галоўная падзея году – гэта чэмпіянат свету па футболе, які пройдзе ў чэрвені ў Японіі і Паўднёвай Карэі і на месяц спыніць актыўнае жыццё ў многіх краінах свету. Усё ж такі тэлеаўдыторыя чэмпіянату свету па футболе ў некалькі разоў перавышае тэлеаўдыторыю тых жа алімпійскіх гульняў! Шкада толькі, што там не будзе беларускай каманды.

## Вернем месца ў эліце!

А ў нядзелю зноў вялікія перажыванні пачаліся ў беларускіх аматараў хакею з шайбай. Нашай галоўнай камандзе трэба будзе на працягу тыдня даказаць, што яе сенсацыйны поспех у Солт-Лэйк-Сіці не быў выпадковым. Для гэтага беларусам трэба заняць толькі першае месца на чэмпіянаце свету ў другім дывізіёне, які пройдзе ў Нідэрландах, каб вярнуць нам месца ў эліце, страчанае год таму. Дзеля гэтага беларускай камандзе пажадана перамагчы ва ўсіх гульнях. Акрамя гаспадароў у саперніках беларусам дасталіся каманды Францыі і Казахстану, якія будуць нашымі асноўнымі канкурэнтамі, а таксама Харватыі і Паўднёвай Карэі. Беларускае тэлебачанне будзе трансляваць усе гульні.

А напярэдадні беларуская зборная правяла чатыры таварыскія гульні са зборнымі Нарвегіі і Латвіі (па дзве з кожнай). З скандынавамі беларусы здабылі станоўчы баланс: нічыя 2:2 і перамога 3:1. З латвійцамі ж беларусы першую гульню прайгралі з лікам 1:4, а другую звялі ўнічыю – 2:2.

Варта адзначыць, што беларуская зборная значна абнавілася пасля алімпіяды, бо трэнерскі штаб вырашыў паступова амаладзіць каманду. Дарэчы, часова зменены і галоўны трэнер. Замест Уладзіміра Крыкунова, які зараз звязаны кантрактнымі абавязкамі са зборнай Расіі, узначальваць зборную будзе Уладзімір Варонін, а дапамагаць яму будзе Іван Крываносаў. Першую ж стартавую гульню супраць зборнай Паўднёвай Карэі беларусы правялі звышупэўнена і перамаглі з лікам 12:1.

**Падрыхтаваў Аляксей СТАЎСКІ**

# Загадкавы крадзеж на Нямізе

*У студзені мінулага году ў Гандлёвым доме «На Нямізе» адбыўся буйны крадзеж. Не так даўно адпаведную крымінальную справу перадалі ў суд, але загадак застаецца шмат.*


Фота Ул.ШЛАПАКА

Гандлёвы дом «На Нямізе» ахоўвае ўласная служба бяспекі. Ахоўнікі абыходзяць памяшканне па перыметры знадворку. Звычайна з імі ходзіць сабака, але ў ноч, калі была здзейснена кража, сабакі не было – ён захварэў. Загадкавае супадзенне. Некалькі разоў спрацоўвала сігналізацыя, але ахоўнік, які сачыў за пультам, палічыў, што сігнал несапраўдны. Тэхніка на самой справе дае збоі, але каб некалькі разоў запар... Зноў загадка.

Як распавёў старшы оперупаўнаважаны аддзелу крымінальнага вышуку Цэнтральнага РУУС Мінску Мікалай Чарняцоў, ахоўнікі заўважылі злачынцаў, калі тыя ўжо ўцякалі. Тады ж калега, які сачыў за пультам, паведаміў, што спрацоўвала сігналізацыя. Але чамусьці два ахоўнікі не здолелі дагнаць двух зладзеяў, якія цягнулі вялікія баулы. Таксама загадка.

Як звычайна, эксперт узяў усе адбіткі пальцаў на месцы здарэння. Дзякуючы сістэме камп'ютэрызаванага ўліку дактыласкапічных картак, высветлілася, што сярод мноства адбіткаў пальцаў ёсць і тыя, што належаць грамадзяніну М. Раней ён быў асуджаны за выкраданне аўтамабіля. Міліцыянты яго затрымалі, але, акрамя адбіткаў пальцаў, ніякіх іншых доказаў віны не было. Спачатку «зачапіліся» за тое, што адбіткі знайшлі ўнутры вітрыны на падстаўцы для гадзіннікаў. Але прадаўцы сказалі, што яны маглі паказаць пакупніку гадзіннік разам з падстаўкай. Вось і грамадзянін М. сцвярджаў, што наведваў магазін выключна ў якасці пакупніка. Міліцыянты былі вымушаны адпусціць затрыманага.

Вопыт і інтуіцыя падказвалі дэтэктывам, Мікалаю Чарняцову і Мікалаю Астраўіку, што ўсё ж такі трэба пацікавіцца занятнямі грамадзяніна М. Яны наведалі прыгарад Мінску, дзе той жыў, паразмаўлялі з суседзямі. Неўзабаве стала вядома, што ён прадаваў рэчы з асартыменту гандлёвага дома. Высветлілі асобы пакупнікоў, апыталі іх. Адна жанчына расказала, што швейцарскі пазалочаны гадзіннік ёй прапанаваў знаёмы з выгляду мужчына. Ва ўпраўленні ўнутраных справаў яна па відэаматэрыялах пазнала грамадзяніна М. Міліцыянты канфіскавалі гадзіннік для следчых дзеянняў. Накіравалі запыт у ГД «На Нямізе» з прапановай вызначыць па нумары, скрадзены гэты гадзіннік ці не.

Грамадзяніна М. зноў затрымалі і правадзілі вобыск. Зразумела, М. не трымаў дома крадзенага, але пад кучай бруднай бялізны былі знойдзеныя красоўкі, узор падэшвы якіх супаў з адбіткам абутку на месцы здарэння. Далей з'явілася аператыўная інфармацыя, што на адным з рынкаў прадаюць барсеткі, вельмі падобныя да крадзеных. Гандлярка сказала, што набыла іх у двух маладых людзей. Грамадзяніна М. зноў пазналі, а вось ягонага сябра жанчына магла толькі апісаць.

М. сцвярджаў, што пайшоў «на справу» адзін. Разбіў шкляныя дзверы Гандлёвага дома і хвілін сорак назіраў: ці спрацуе сігналізацыя, як будуць паводзіць сябе ахоўнікі. Паколькі ўсё было ціха, ён зайшоў у краму. Узяў самыя вялікія баулы ў секцыі «Галантарэя» і пачаў напаўняць іх гадзіннікамі, барсеткамі, ювелірнымі вырабамі, бытавой тэхнікай.

Нягледзячы на паказанні сведкаў, гр-н М. сцвярджае, што здзейсніў крадзеж адзін. Справа тут не ў бандыцкім «кодэксе гонару». Як чалавек, які мае крымінальны досвед, гр-н М. ведае, што яго чакае сур'ёзнае пакаранне, бо кража «цягне» на асабліва буйны памер – з ГД «На Нямізе» скрадзена тавару на 15 тысяч даляраў. А калі ён прызнаецца, што меў саўдзельніка, тэрмін пакарання павялічыцца.

Пасля гэтага крадзяжу Гандлёвы дом падключаны да сігналізацыі аб'яднання «Ахова». Гэта хоць і не танна, затое надзейна.

**Аксана ЯНОЎСКАЯ**

# Крок ад палення

Для тых, хто без цяжкасцяў зможа адмовіцца ад шкоднае звычкі паліць, як мінімум, цягам чатырох тыдняў, і не супраць атрымаць за гэта тэлевізар «Віцязь», з 2 па 29 траўня ладзіцца міжнародная антытытунёвая кампанія-латарэя «Кідай паліць і выйграй». Яна праводзіцца пяты раз ва ўсім свеце па ініцыятыве Сусветнай арганізацыі аховы здароўя і ахопіць сёлета 100 краінаў.

Згодна з даследаваннямі беларускіх медыкаў, у нашай краіне паляць 61% мужчынаў і 20% жанчынаў. 11% насельніцтва паляць час ад часу. Амаль усе разумеюць, што рызыкуюць сваім здароўем, а 80% хацелі б кінуць паліць. Аднак сілы волі на гэта хапае толькі ў 2%.

Латарэя «Кідай паліць і выйграй» разлічаная якраз на тых, хто мяркуе кінуць паліць «якнебудзь днямі», але кожны раз адкладае гэта на новы тэрмін. І сапраўды, медыкі прызнаюць – каб кінуць паліць, патрэбная моцная матывацыя і псіхалагічная падтрымка. Цяпер вам будзе лягчэй гэта зрабіць. Па-першае, вы не будзеце «белай варонай»: чакаецца, што адначасова будуць «завязваць» з паленнем мільён чалавек ва ўсім свеце. Па-другое, акрамя таго, што за чатыры тыдні непалення зэканоміцца шмат грошай, можна яшчэ і на тэлевізар «Віцязь» пабагацець. А людзей азартных можа зацікавіць магчымасць паўдзельнічаць у еўрапейскім і міжнародным розыгрышы прызоў. З 1 000 удзельнікаў у аднаго чалавека з'явіцца шанец выйграць адзін з шасці еўрапейскіх прызоў па 2,5 тысячы даляраў і адзін міжнародны прыз – 10 000 даляраў. І гэта толькі за адзін месяц непалення! На мінулым розыгрышы галоўны прыз дастаўся чылійскай дзяўчыне.

Удзельнічаць у латарэі можа любы паўналетні чалавек са стажам штодзённага палення не менш за год. Для гэтага трэба запоўніць анкету, якую можна атрымаць у любым Цэнтры здароўя (у Мінску – па вуліцы Кірава, 51), і адправіць яе туды не пазней за 2 траўня. А як вы будзеце змагацца з цягай да цыгарэты наступныя чатыры тыдні, справа ваша. Можаце нават закадавацца і жаваць антытытунёвыя гумкі. Тут галоўны кантралёр – вашае сумленне. Аднак не трэба спадзявацца, што ўсё так лёгка: перад фіналам усе прэтэндэнты на прыз пройдуць біяхімічны тэст на наяўнасць катэніну у мачы. Ён з'яўляецца ў арганізме чалавека толькі пасля палення і захоўваецца там досыць працяглы час. Таму падмануць ні сябе, ні каго іншага не атрымаецца.

**Інга ГРЫМОНТАВА**

# Астралагічны прагноз

## ад Веранікі Кудраўцавай на 16 – 22 красавіка

***Астрапрагноз адлюстроўвае агульны прыродны сацыяльна-псіхалагічны фон накшталт прагнозу надвор'я. Індывідуальнае прагназаванне грунтуецца на дакладных звестках: улічваецца дзень, месяц, год, месца і час нараджэння чалавека.***



**АВЕН.** Вы можаце трапіць у становішча паміж двух агнёў у перыяд змены ўлады або юрыдычнага высвятлення адносінаў. Ваш моцны бок – пасярэдніцтва, калі на гэтым можна зарабіць ці супакоіць бакі, узяўшы на сябе фінансавую частку. Але вялікія сумы не чакаюцца, а ў чацвер пастарайцеся не страціць.



**ЦЯЛЕЦ.** Вас чакае роля «кожнай бочкі затычкі». Хтосьці высвятляе адносіны з партнёрамі, пляце інтрыгі, а вы трапляеце пад гарачы язык. Пакуль п'еса ідзе няблага, аднак у чацвер вам могуць даць няслушную заблытаную інфармацыю, фальшывыя звесткі. У такой сітуацыі лепш пакуль заняцца выйсцем з лабірынту, а не грашыма.



**БЛІЗНЯТЫ.** Паводле заканадаўства вы праводзіце неадэкватную фінансавую палітыку. Яна выклікае шмат спрэчак, аж да суду. Аднак пакуль што вы можаце адчуваць за сабой добрыя тылы – праўда, ці надоўга? Калі можна пасяброўску ці па-чалавечы вырашыць праблему – рабіце гэта, ухіленне дапаможа толькі часова. Блізкія людзі дрэннага не параяць, але не ў чацвер.



**РАК.** Вы ў штыкі ўспрымаеце партнёраў, дакладней – бачыце ў іх ворагаў. Сужонкі таксама могуць трапіць у іх лік. Але ж у вас ёсць сябры. Магчыма, яны ці адвакат у стане выканаць ролю пасярэднікаў у замірэнні бакоў. У чацвер будзьце асцярожныя на дарозе. Абуджаецца інтарэс да прафесіі, і гэта адцягне ад жыццёвых праблем.



**ЛЕЎ.** Не кожны партапіць спалучыць свабодную творчасць і службовыя абавязкі. Адсюль і непаразуменні, але знайсці агульную мову з начальствам можна. Толькі ў чацвер не падключайце да гэтага трэціх асобаў, бо яны, хутчэй, нашкодзяць няслушна выттлумачанай інфармацыяй. Некаторыя яшчэ ў стане ўтрымацца ад разрыву з каханымі або дзецьмі.



**ПАННА.** Хтосьці дагуляўся да мяжы, але можа гэтага не адчуваць. Бо ёсць пакуль попыт на вашую прапанову, ці гэта каханне, ці грашовая проза. Дзіцяці патрэбная абарона, і да гэтага могуць мець дачыненне сваякі, так што трываць яшчэ можна. Аднак патрэбная ўжо прынцыповая дамоўленасць па важных пытаннях, якія атрымаюць свой ход.



**ШАЛІ.** Фундаментальныя пытанні быцця, буйныя праекты здаюцца невыканальнымі. Але адкуль бяруцца патрэбныя людзі, своечасова з'яўляюцца каштоўныя парады – гэта з галіны ўмяшання таемных сілаў. Не трэба думаць, што вас абышла любоў ці ўвага публікі – калі нават так, гэтая з'ява зменлівая, як веснавое надвор'е. Закаханасць на дзень – і вы ўжо герой.



**СКАРПІЁН.** Погляды на жыццё мяняюцца. У гэтым немалая заслуга сужонка ці сябра, які на нейкі час стаў дарадцам па жыцці. Як бы вы ні круціліся і ні хітравалі, а адказваць перад кімсьці, фармаваць грамадскую думку давядзецца. У чацвер магчымая трывожная або няспраўджаная інфармацыя. Лепш сустрэньцеся з сябрам.



**СТРАЛЕЦ.** Фінансавы стан выклікае трывогу. Давядзецца шмат папрацаваць, правесці шэраг сустрэчаў, выканаць дробныя, але неабходныя даручэнні, што ў вас назбіраліся. Не зацягвайце працэсу, бо могуць зацікавіцца структуры, што вядуць следства. Не страцьце шанцу ўзяць удзел у культурнай імпрэзе, гульні, прадстаўленні, дзе можаце паказаць свой талент.



**КАЗЯРОГ.** Вы не ў выгадным святле адбіваецеся ў люстэрку сацыяльнага ці шлюбнага жыцця: хтосьці абцяжараны судовымі працэсамі або канфліктам з начальствам, хтосьці расчараваны ў сям'і. Але радасці жыцця, хай сабе і маленькія, вас не пакінуць, вы будзеце мець увагу і прыемныя сустрэчы. Самы ўдзячны занятак – клапаціцца пра сваіх дзяцей.



**ВАДАЛІЎ.** Інтрыгі, праявы таемных працэсаў, супрацьстаянне па дыпламатычнай або адміністрацыйнай лініі – гэта ўжо рэальнасць. Але вы пакуль можаце спаслацца на ўнутраныя праблемы, неабходнасць вырашэння хатніх задач. Насамрэч, дабрабыт блізкіх і дзяцей – што можа быць найважнейшым? Дзіця можна ўладкаваць у прыстойную навучальную ўстанову.



**РЫБЫ.** Вам у чарговы раз не сумна, ёсць неабходнасць заняцца ўрэгуляваннем гульняў начальства або навучальным працэсам. Калі будзе шмат клопатаў і кантактаў, гэта вам пойдзе на карысць. Чацвер – туманны дзень, магчымыя скажэнні інфармацыі, рассеянне ўвагі. Таму на дарозе будзьце вельмі ўважлівыя, а лепш у гэты дзень пакіньце аўтамабіль на стаянцы.

Галоўны рэдактар
**Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, вул. Рафіева, д.25, корп.1. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1145 Нумар падпісаны ў друк 15/04/2002 (15:00) Наклад – 7 340